Анатоль Клышка

# ЛІТАРАТУРНАЕ ЧЫТАННЕ

Падручнік для 4 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з рускай мовай навучання

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2014

УДК 811.161.1(075.2=161.1)
ББК 81.2Рус-93
К47

Р э ц э н з е н т
кафедра педагогікі і псіхалогіі дашкольнай і пачатковай адукацыі дзяржаўнай установы адукацыі «Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі» (старшы выкладчык кафедры, начальнік цэнтра інфармацыйна-метадычнай падтрымкі кадраў *Т. А. Няборская*)

**Умоўнае абазначэнне:**

 — слоўнік

**Клышка, Анатоль**
К47 Літаратурнае чытанне : падруч. для 4-га кл. ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з рус. мовай навучання / Анатоль Клышка. — 2-е выд., выпр. і дап. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2014. — 128 с. : іл.
ISBN 978-985-559-294-6.

**УДК 811.161.1(075.2=161.1)**
**ББК 81.2Рус-93**

**ISBN 978-985-559-294-6**

# РАДЗІМА МАЯ ДАРАГАЯ



*Я радасць сваю не стрымаю —*
*І песня ўзлятае сама:*
*Мне лепей ад роднага краю*
*Нічога на свеце няма.*

Алесь Бачыла



## МОЙ НАРОД

*Алесь Ставер*

Мой народ праз стагоддзі пранёс дабрату,
Да суседзяў-народаў павагу,
Знае свет навакольны яго прамату,
І любоў да жыцця, і адвагу.
І заўсёды ў віхурах вякоў і нягод,
У зямной непагодзе суровай,
Вылучала між іншых мой мужны народ
Беларуская родная мова.
Дык чаруй жа людзей паміж моваў другіх
І гучы вечна ярка і нова,
Мова продкаў маіх і нашчадкаў маіх —
Беларуская родная мова!





***Нашча́дкі*** — тут: людзі будучых пакаленняў.

1. Якія пачуцці выклікаў у вас гэты верш?
2. Як вы разумееце выраз «мова продкаў маіх і нашчадкаў маіх»?
3. Якія рысы характару беларускага народа адзначае паэт? Прачытайце радкі, інтанацыйна падкрэсліваючы адпаведныя назоўнікі.
4. Якое самае запаветнае жаданне паэта? Прачытайце.
5. Падрыхтуйцеся прачытаць верш так, каб перадаць свой гонар за наш народ і яго мову.

## ДАРОГА Ў ШКОЛУ

*Алесь Савіцкі*

У школу Данік ішоў разам з бацькам.

Усё было незвычайным у гэты вераснёўскі ранак. І болей за ўсё радаваў Даніка новы карычневы ранец з шырокімі бліскучымі спражкамі на рамянях.

На школьным двары Даніка запыніў Міхась. Жылі яны на адной вуліцы, але не вельмі сябравалі. Міхась любіў задзірацца.

— Глядзіце! Данік без кветак ідзе, — крыкнуў Міхась. — Ты што, згубіў іх?

Данік адбіў наскок весела, але яму стала вельмі крыўдна. Кветкі ў яго былі, калі ён выходзіў з хаты. Ды яшчэ якія! Вялікі букет вяргінь, якія ма-



ці падрыхтавала, нават абкруціла сцябліны ў празрысты і хрумсткі цэлафан. Ды на паваротцы дарогі, што выводзіць з вёскі на асфальтавую шашу, бацька спыніўся ля абеліска, што стаіць у засені таполяў і клёнаў.

— Пакладзем кветкі, сынок, ім, героям нашым, — сказаў бацька. — У такі вось дзень, першым вераснем, у вайну наша вёска гарэла. Якраз ранкам, сонечным вось гэткім. Партызаны тады і пaляглі тут...

Данік паклаў вяргіні да абеліска. Дарогаю да школы бацька расказваў пра бой партызанаў з фашыстамі. Партызанаў было мала, а фашыстаў шмат. Па-геройску біліся партызаны, усе яны загінулі. Але ўратавалі вяскоўцаў: тыя паспелі схавацца ў лесе...

Данік не сказаў пра гэта Міхасю. А той заскакаў на адной назе, задудзеў:

— Ішоў, разявака, кветкі згубіў...

Міхасёва прыпеўка пакрыўдзіла Даніка. Яшчэ большую крыўду давялося перажыць у класе. Празвінеў званок, у клас зайшла настаўніца. Яна назвалася Вольгай Пятроўнай, пазнаёмілася з усімі. Ласкава ўсміхаючыся, спыталася, ці не было якіх здарэнняў па дарозе ў школу.

— А Данік кветкі згубіў, — абвясціў Міхась.

Данік не сцярпеў, хацеў быў устаць і расказаць, як усё было. Але яго апярэдзіла Зіна.



— Няпраўда! — голасна заступілася яна за Даніка. — Я ведаю, чаму Данік прыйшоў без кветак.

Зіна, аказваецца, усё бачыла, бо ішла ў школу следам за Данікам. Перад пастраеннем на школьным двары Зіна дала Даніку ружу са свайго букета, каб было што ўручыць выпускнікам. Цяпер ён канчаткова вырашыў, што будзе сябраваць з Зінаю. Выслухаўшы Зіну, настаўніца падышла да стала, на якім ляжалі кветкі, і сказала:

— Першы ўрок у нас, дзеці, — Урок памяці. Бярыце кветкі і пойдзем да абеліска.

Абеліск нябачны са школьнага ганка: яго шчыльна атуляюць таполі і клёны. Але як толькі перайшлі шашу, Данік адразу ўбачыў гранітную пірамідку.

Настаўніца скіравала гаманлівую чародку дзяцей да агароджы ля брацкай магілы, папрасіла:

— Ты, Данік, ведаеш, хто тут пахаваны. Раскажы нам.

— Тут пахаваны партызаны. Яны выратавалі людзей ад смерці...

Данік хацеў падрабязна расказаць пра ўсё, што пачуў ад бацькі. Але позірк яго спыніўся на вяргінях. Побач з яго букетам ляжала шмат іншых кве-

так: чырвоныя гваздзікі і ружы, белыя рамонкі... А ўранні — ён добра памятае — іх не было. «Бачыш, Міхась, — хацелася крыкнуць Даніку, — не адзін я прыйшоў у школу без кветак».

— Так, дзеці, — сказала Вольга Пятроўна, — тут пахаваны партызаны. Яны загінулі па-геройску, аддалі самае дарагое, што ў іх было, — жыццё, каб мы жылі шчасліва. Запомніце іх імёны: Мікола Дубко, Кайрат Жумагаліеў, Іван Санько, лейтэнант Сакалоў... Як бачыце, беларус, казах, рускі. Сыны розных народаў палеглі за вас.

Настаўніца чытала імёны герояў, а дзеці падыходзілі да абеліска і клалі кветкі. І Данік, і Зіна, і Міхась, і ўсе першакласнікі.



***Хру́мсткі*** — тут: такі, што хрусціць, робіць трэск.
***Здарэ́нне*** — тое, што адбылося (падзея, нечаканасць).
***Атуля́ць*** — тут: акружаць.

1. Чаму Данік не прынёс кветкі ў школу першага верасня? Дзе ён іх пакінуў?
2. Якія рысы характару Міхася вам не падабаюцца? З якой інтанацыяй вы прачытаеце Міхасёвы словы?
3. Прачытайце, як вучні разам з настаўніцай ушанавалі памяць палеглых партызанаў.
4. Якіх герояў, сваіх землякоў, вы ведаеце? Раскажыце пра іх.
5. Як вы ўшаноўваеце памяць сваіх землякоў-герояў?

# ДРАЧ І КРОТ

*(Казка)*

З далёкага цёплага выраю вяртаўся дадому Драч.

Гэта шэрая птушачка ўлетку ў нас выводзіць сваіх дзяцей, а на зіму адлятае ў Афрыку.

Цяжка ляцець Драчу. Малыя ў яго крыльцы. І таму ён дзе ляціць, а дзе і пешкі ідзе. Вось і цяпер, спусціўшыся на зямлю, ён ішоў і ішоў дадому. Ідзе сабе і думае пра гняздзечка пад кустом ракіты ў зялёным надрэчным лузе.

Раптам сустракае Крата. Сядзіць Крот у нары, высунуў пыску і пытаецца ў Драча:

— Хто ты такі і куды ідзеш?

— Я — Драч. Вяртаюся з выраю на Радзіму.

Расказаў Драч Крату пра свой родны край і пра далёкую афрыканскую зямлю, дзе заўсёды цёпла.



— Дык чаму ж ты не застаўся там, дзе заўсёды цёпла? — здзівіўся Крот. — Чаму ты кожны год выбіраешся ў такую дарогу? Ты ж да крыві скалоў свае ногі. Цябе ўсюды высочвае ястраб. Чаму ты церпіш такія пакуты? Хто цябе кліча сюды?

— Радзіма, — адказаў Драч.

*Паводле Васіля Сухамлінскага*



**Пы́ска** (памянш. ад *пыса*) — мордачка.
**Паку́та** — мука, мучэнне.

1. Дзе звычайна зімуе Драч, а дзе выводзіць птушанят?
2. Якія пакуты церпіць Драч, вяртаючыся ў родныя мясціны?
3. Прачытайце, што здзіўляе Крата ў паводзінах Драча.
4. Што вы можаце сказаць пра Крата, пачуўшы яго пытанні?
5. Што самае важнае для Драча?
6. Чаму аўтар выбраў Крата для супрацьпастаўлення Драчу?
7. Прачытайце гэты твор яшчэ раз самастойна і падрыхтуйцеся да чытання яго па асобах.

## ПРЫКАЗКІ

*Для ўсякай птушкі сваё гняздо міла.*
*Радзіма любімая — маці родная.*
*Кожная сасна свайму бору песню спявае.*

# ЧАМУ?

*Алеся Станюк*

Ты прачнуўся і зірнуў у акно. А чаму назвалі *акно*? Даўным-даўно ў нашых продкаў было слова *óко* (вока). Будыніна, у якой жыве чалавек, мае сваё вока, яно таксама глядзіць на свет. Адсюль і пайшла назва. У беларусаў — *акно, вокны,* у рускіх — *окно,* украінцы называюць па-свойму — *вікно,* палякі і чэхі — *óкно*.

А вось ты ідзеш у школу. Яна, скажам, у суседняй вёсцы. Ты выходзіш на дарогу, якую старэйшыя людзі чамусьці называюць *гасці́нец*. Але спачатку падумаем, адкуль узялося слова *дарога*. Перш чым праклaсці дарогу, звычайна расчышчаюць вузкую паласу ад усяго, што на ёй расце, — выдзіраюць траву, кусты. Вось ад слова *драць* праз замену галосных і ўтварылася аднакаранёвае —



*дарога*. Дарогі спачатку служылі для праезду гасцей — купцоў, якія прывозілі для абмену свае тавары. Дарогу, па якой ездзілі госці, назвалі *гасцінец*.

Ідзеш палявою дарогаю. Давай задумаемся, адкуль узніклі назвы тых раслін, што кормяць чалавека.

Жыта ўтворана ад слова *жыць*. Жыта — хлеб, а хлеб — галоўная яда чалавека. Па-руску гэтая збажына завецца *рожь*. Некаторыя вучоныя тлумачаць, што ў рускай мове слова *рожь* утварылася ад *рожать*, як і *ўраджай*.

Пшаніца. Гэтую назву даў дзеяслоў *пхаць*, што азначала *таўчы*, *малоць*. Каб атрымаць крупы, зерне таўклі.

Грэчка. Утворана ад слова *грэк*, бо нашы продкі даведаліся пра гэтую расліну праз грэкаў і спачатку называлі яе «грэцкая збажына» або «грэцкі хлеб».

Бульба. Беларуская назва пайшла ад лацінскага слова *бульбус*, што азначае *цыбуліна*. Тое, што бульбіна, як і цыбуліна, — гэта плады ў зямлі і на выгляд яны крыху падобныя, нарадзіла такую назву.

---

1. Пра гісторыю ўзнікнення якіх беларускіх слоў вы даведаліся?
2. Прачытайце, адкуль пайшлі назвы слоў «жыта», «бульба», «акно».
3. Як старэйшыя людзі называюць дарогу? Чаму?
4. Адкуль пайшло слова «грэчка»? Як вы лічыце, як узніклі словы «сякера», «граблі», «дрывотня»?

# ЛЮБЛЮ НАШ КРАЙ

*Канстанцыя Буйло*



Люблю наш край — старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз спазнала шчасце,
Слязу нядолі праліла.

Люблю народ наш беларускі
І хаты ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў.

І песню родную люблю я,
Што ў полі жнеі запяюць,
Як гукі звонкія над нівай
Пераліваюцца, плывуць.

Мне тут усё для сэрца міла,
Бо я люблю край родны свой,
Дзе з першым шчасцем я спазналась
І з першай горкаю слязой.



***Жняя́*** — жанчына, што жне ўручную сярпом.

1. Якое слова і дзеля чаго паўтараецца ў кожным чатырохрадкоўі гэтага верша?
2. За што паэт любіць родны край?
3. Чаму гэты верш стаў народнай песняй?
4. Вывучыце твор на памяць.

# КАЛІ ЛАСКА!

*Пятрусь Броўка*

У любімай мове, роднай, наскай,
Ах, якія словы: «Калі ласка!..»
Як звіняць яны сардэчнаю струною,
Праз усё жыццё ідуць са мною.
Трапіць госць у будзень, а ці ў свята:
— Калі ласка, калі ласка ў хату!
Гром грыміць. З нябёсамі размова:
— Калі ласка, цёплы дождж вясновы!
І не вельмі буйны, і не рэдкі —
На сады, на пушчы, на палеткі,
На грыбы, на ягады, на кветкі...
— Калі ласка! — наш зварот бясконцы.
Мы гаворым ранішняму сонцу:
— Калі ласка, сонца, выйдзі з хмары,
Радасцю аблашчы нашы твары.
— Калі ласка! — нашай роднай мовы
Шчырыя і ветлівыя словы.



***На́скі*** — наш (рус. *нашенский*).
***Абла́шчыць*** — тут: ласкава, прыемна сагрэць праменнем.

**1** Якія адносіны паміж людзьмі нараджаюць ветлівыя словы?

**2** Як у гасцінным запрашэнні да вясновага дажджу выяўляецца сам чалавек — працаўнік,

заклапочаны ўраджаем? Прачытайце гэтыя радкі, перадаючы яго ўвагу да ўсяго, што расце.

**3** Якія яшчэ словы падзякі і запрашэння вы ведаеце?

**4** Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша. Пастарайцеся перадаць тыя пачуцці, з якімі аўтар звяртаецца да гасцей. Выкарыстоўвайце паўзы, лагічны націск у сказах.

* * *

*Віктар Шымук*

Лёгка нам нічога не даецца,
Лёгка мы ніколі не жылі.
Лёгка не куецца і не жнецца,
Лёгка не бывае на зямлі.
Глянь, у Мінску выраслі палацы,
Глянь, у Брэсце зелені прыбой.
Гэта ўсё здабыта нашай працай,
Нашымі рукамі, сябра мой.
Нават птушкі жыць не хочуць лёгка —
Гнёзды ўюць, гадуюць птушанят.
Не магу глядзець на абібокаў,
Хоць між нас сустрэнеш іх няшмат.
З гэткімі не думаю раўняцца,
Перад намі — светлы, ясны шлях.
Мы Радзіму праслаўляем працай
На будоўлях, фабрыках, палях.
Хоць нічога лёгка не даецца,

Хоць ніколі лёгка не жылі —
Добра нам і жнецца, і куецца,
Добра нам на бацькаўскай зямлі.

---

1 Ці бывае лёгкай сапраўдная праца? Пры адказе выкарыстайце радкі верша.

2 Параўнайце першае і апошняе чатырохрадкоўі. Чым выкліканы змены ў астатніх двух радках?

3 Як звязаны верш з прыказкай «Найсмачнейшы хлеб ад сваёй працы»?

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ ПА ТЭМЕ

- Успомніце, якія апавяданні і вершы аб Радзіме вы чыталі.
- З якіх твораў гэтыя радкі?

І гучы вечна ярка і нова,
Мова продкаў маіх і нашчадкаў маіх —
Беларуская родная мова!

Люблю наш край — старонку гэту...

— Калі ласка! — нашай роднай мовы
Шчырыя і ветлівыя словы.

— Радзіма, — адказаў Драч.

- Якое апавяданне з гэтага раздзела вам найбольш спадабалася? Чаму? А які верш запомніўся?
- Якія прыказкі аб Радзіме вы ведаеце?

# НА НІЦЯХ БЕЛАЙ ПАВУЦІНЫ ПРЫВОЗЯЦЬ ВОСЕНЬ ПАВУЧКІ...



*Мінаючы зялёную ялінку,*
*Апёкшы клёна кволую далонь,*
*З сука на сук, з галінкі на галінку*
*Перасмыкае восеньскі агонь.*

Сяргей Дзяргай



## АДЛЁТ ЖУРАЎЛЁЎ

*Якуб Колас*

Сцелюцца валокны,
Тчэцца павуціна —
Блізка, блізка восень,
Смутная часіна!

Замірае лета,
Заціхаюць далі,
Сірацее рэчка,
Халадзеюць хвалі.

У бязмежным небе
Роўненькім шнурочкам





Жураўлі на вырай
Мкнуцца над лясочкам.

Меншыцца шнурочак,
У паднеб'і тае,
Вось ледзь-ледзь чарнее,
Міг — і прападае.

І стаіш ты, смутны,
Доўга пазіраеш,
Як бы нешта страціў,
А што — сам не знаеш.



---

1. Які настрой абудзіў у вас верш? Чым выклікана гэта пачуццё?
2. Якія карціны восені малюе паэт? Якія з іх можна бачыць, а якія чуць?
3. Як вы разумееце выразы «замірае лета», «сірацее рэчка»?
4. Прачытайце радкі, дзе апісваецца, як знікае з вачэй журaўліны клін. Пры чытанні верша перадайце пачуццё развітання. Вывучыце твор на памяць.



## КЛЁНЫ

*Міхась Пазнякоў*

Лісце кружыць, падае,
Сцелецца ў траве,
Восень барвай радуе,
Музыкай плыве.

Сонечна пад клёнамі,
Светла навакол,
Цёплымі далонямі
Грэюць клёны дол.



***Ба́рва*** — колер, афарбоўка, а таксама: чырвань.

1 Чым радуе клён у хмурную восень?

2 Чаму аўтар параўноўвае лісце клёна з «цёплымі далонямі»?

3 Пры чытанні верша выразна падкрэсліце гэтыя асаблівасці твора.

## ЦЯЖКАЯ ПРАЦА

*Эдуард Шым*

Напэўна, кожны чуў пра тое, як вожык на калючках цягне лісце.

І гладка гэтак выходзіць: пакачаўся вожык, накалоў лісця і прыцягнуў у нару. З плячэй скінуў — ды і канец.



А напраўду не так проста.

Сустрэў я вожыка, калі хадзіў па апеньки.

Перабірае лапкамі вожык па сцяжынцы, нясе тры лісткі, два з бакоў, адзін на загрыўку. Вожыку гэта няцяжка: у дзесяць разоў болей панёс бы. Але ж іголкі густыя, шчыльныя. Лісце на іх дрэнна наколваецца. Усё роўна як грабянём паперу нам пратыкаць.

Цішком, каб не спалохаць, пайшоў я ззаду.

Старая хвоя-выварацень, пад ёй — ямка. Вожыкаў дом. Спыніўся вожык. Трэба цяпер лісце зняць, запхнуць у нару.

А як здымеш лісце? Лапкай не схапіць. Зубамі — і думаць няма чаго. І не страсянеш — моцна сядзіць. Вось бяда!

Пачаў вожык аб корань церціся, здзіраць лісце. З бакоў зняў, хоць і памяў. А вось з загрыўка — ані.

Сапе́, стараецца, заднімі лапамі паддае, а ліст не злазіць, дый годзе.

Доўга стараўся, а ліста так і не зняў. Пастаяў, сказаў «туф, туф» — гэта, напэўна, як наша «ох, ох» — і пайшоў назад па сцяжынцы.

Як знік ён з вачэй, я ў нізінку збегаў, прынёс лісця, сунуў у нару:

— На табе, не мучся!

Нельга было не дапамагчы. Такая цяжкая праца ў вожыка!



***Шчы́льны*** — які складаецца з блізка размешчаных часцінак (тут: калючак).

1. Раскажыце, як аўтар сустрэўся з вожыкам.
2. Прачытайце, як вожык вызваляўся ад сваёй ношы.
3. Чаму апавяданне называецца «Цяжкая праца»?
4. Знайдзіце ў тэксце ўрывак, які сведчыць пра добрае, спагадлівае сэрца пісьменніка.
5. Ці дапамагалі вы калі звярам і птушкам? Раскажыце.

## ВЕРАСЕНЬ

*Мікола Хведаровіч*

Звіняць пажоўклыя лясы,
Там гаспадарыць верасень.
Замоўклі птушак галасы,
І пахне спелым верасам.

Туманы сцелюцца ўначы,
Дзянькі пайшлі маленькія.
На пасеках усе карчы
Аблеплены апенькамі.

Пад елкамі баравікі
Стаяць — не паварушацца.
Іх ніжуць белкі на сукі,
Няхай на ветры сушацца.

Лісіца водзіць лісянят
Лавіць мышэй на ржэўніку.
Спрабуюць досвіткам ля хат
Свой сціплы голас пеўнікі.

1 Пералічыце прыметы восеньскага лесу, згаданыя ў вершы.

2 Чаму паэт галасы маладых пеўнікаў называе сціплымі?

3 Падрыхтуйцеся выразна чытаць верш.

# ХОВАНКІ

*Уладзімір Дубоўка*

Недалёка ад Сянна, на беразе самога возера, пры якім стаіць Сянно, ёсць невялічкая ўтульная вёсачка Свабоднае. Давялося нам неяк пражыць там з паўлета. Што, апрача прыроды, спадабалася нам у тым прыгожым куточку Беларусі — гэта людзі. Вельмі добрыя, цікавыя, лагодныя. А потым — дзеці. Жонка мая бадай усё жыццё працавала настаўніцай, ды паездзілі мы па свеце багата. Такім чынам, маглі параўноўваць, супастаўляць. Розныя бываюць і дарослыя, розныя бываюць і дзеці. Вось, напрыклад, у часе вайны ішла жанчына прасёлкам да станцыі. Сустрэла мужчын. Пытаецца ў іх:

— Ці так я іду, ці правільным шляхам?

— Ды не, — кажуць, — зусім не. Вам трэба ісці вось гэтай дарогай. Адразу і прыйдзеце туды, куды вам трэба.

Бедная жанчына паслухала іх, прайшла кіламетраў дзесяць па восеньскай калатусе, ды з клункамі, і даведалася, што ёй трэба было зусім у адваротны бок ісці...

Скажыце: ці варты тыя людзі добрага слова? Нейкая звярыная, жывёльная жорсткасць і бязлітаснасць кіруюць такімі істотамі...

А вось у Свабодным, гуляючы ў лесе, мы неяк заблудзіліся і пайшлі не ў патрэбны бок, а ў адваротны. Па дарозе сустрэлі двух хлопчыкаў, якія



ехалі на падводзе ў кузню, везлі нейкую дэталь ад жняяркі для рамонту. Павіталіся з намі. Жонка пытаецца:

— Ці далёка да Свабоднага?

Большы адказвае:

— Недалёка, але ж вы не ў той бок ідзяце. Сядайце на нашу падводу, мы вас падвязём...

Едучы, яны расказалі нам пра свае дзіцячыя клопаты, а ў нас запыталіся, хто мы, дзе жывём. Уся гутарка была далікатная, без ніякіх выкрутасаў...

У Свабодным жа мы наглядалі неаднойчы, як дзеці, якія не хадзілі ў поле, гулялі ў розныя гульні, у тым ліку і ў хованкі. Было дзяцей блізу нашае хаты шасцёра-сямёра, прычым больш-менш аднаго ўзросту. Але гуляў разам з імі адзін хлопчык гадоў

чатырох, а можа і менш таго, бо ён хадзіў у адной кашульцы, без штонікаў. Клікалі яго Вася.

Калі давалі сігнал хавацца, ён адыходзіў крокі на два і закрываў далонямі свой твар. Гэта азначала, што ён схаваўся, што яго ніхто не бачыць. І вось хлопец або дзяўчынка, якія правяралі ўсе хованкі, самыя патаемныя мясцінкі, праходзілі колькі разоў ля гэтага маленькага Васі і ўсё пыталіся:

— Ды дзе ж той Вася схаваўся? Ды як жа нам адшукаць Васю? Хто нам дапаможа знайсці Васю?

А Вася аж танцуе на сваёй схованцы, але рук ад твару не адымае. Урэшце ён затукаў усіх, ён перамог...

Як бы хацелася зірнуць сёння на таго Васю! Цяпер яму, пэўна, чатырнаццаць або пятнаццаць гадкоў. Вось бы паглядзець, як ён гуляе з малодшымі ад сябе! Ці так жа добра, як гулялі з ім самім...



***Калату́ха*** — размешаная гразь.
***Клу́нак*** (клу́мак) — дробныя рэчы, звязаныя хусткаю або складзеныя ў торбу.
***Зату́каць*** (засту́каць) — у дзіцячай гульні: стукам адзначыць знойдзенага.

**1** Чым спадабалася пісьменніку і яго жонцы невялікая вёсачка Свабоднае?

**2** Прачытайце, пра які непрыгожы ўчынак з часоў вайны ўспамінае аўтар.

**3** Раскажыце, чым розняцца жарт і гэты непрыгожы ўчынак.

4 Як умелі гуляць дзеці з малым Васем, каб ён адчуваў сябе з імі добра, як роўны з роўнымі?

5 Прачытайце апошні абзац тэксту. Чаму аўтара хвалюе, ці ўмее гэтак жа прыгожа гуляць цяпер і Вася?

6 Як вы дружыце з малодшымі дзецьмі? Што чытаеце ім, што расказваеце?

## ВУЖ

*Максім Лужанін*



Вуж
паўзе
сабе
дарожкай,
не кране
ніводнай
ножкай.
Ён
пакратаў бы,
каб мог,
але
вуж
не мае
ног.

---

1 Што нагадвае звілістае размяшчэнне радкоў гэтага жартоўнага верша?

## БАБКА

*Максім Танк*

Ходзіць бабка
лесам-гаем,
У хусціначку
збірае:
Даланясты ліст кляновы —
Хлеб на ім пячы жытнёвы,
А дубовы ліст — для бочкі,
Каб хрумсцелі агурочкі,
А бабоўнік кучаравы —
Каб не страціць смак да стравы,
Ліст малінавы — для чаю,
Што ад кашлю памагае,
Ад дакучлівай ламоты,
Рознай там непамыслоты...
Ачаплялася лістамі,
Ягаднікамі, імхамі,
Што, як сядзе ў цень мурожны,
І ваверка не адрозніць:
Ці то бабка каля сцежкі,
Ці пянёк, ці сыраежка?



***Непамысло́та*** — тут: нездароўе, хвароба.
***Муро́жны*** — тут: пра мясціну, дзе расце добрая трава.

**1** Якія лісты збірае бабка і што вы даведаліся пра іх карысць з верша?

**2** Ці збіраеце вы лекавыя расліны? Ці ведаеце, калі, як і што з іх трэба збіраць?

**3** Чаму і да ліста якога дрэва ўжыў паэт азначэнне «даланясты»?

**4** Намалюйце словамі, якім уяўляецца вам выгляд бабкі.

## ЗАЙЧЫКАЎ ХЛЕБ

*Пятро Граніт*

Жыве ў цёмным лесе
спагадлівы зайчык,
каго ні сустрэне,
дасць хлеба акрайчык.

Спаткае дзядулю —
падорыць ласункі
і ўнучцы з унукам
пашле падарункі.

З поля вяртаюцца
тата і мама
і зайчыкаў хлеб
нам прыносяць таксама.



***Акра́йчык*** — кавалак хлеба, адрэзаны ад краю.
***Прысу́нак*** — што-небудзь вельмі смачнае.

**1** Пра які зайчыкаў хлеб гаворыцца ў вершы?

**2** Чым гэты верш падобны да казкі?

## ЖАРТ

*Васіль Вітка*

Хвошча, хвошча дождж.
Воўк схаваўся ў хвошч.
Хвост пад хвашчом,
А воўк пад даждж ом.

---

1 Назавіце словы, падобныя па гучанні.
2 Чым гэты верш падобны да скорагаворкі?

### СКОРАГАВОРКА

*Прыручыць сароку — адна марока.*
*А сорак сарок — сорак марок.*

3 Вывучыце скорагаворку на памяць.

---

## Дзе тут прыказкі, а дзе народныя прыметы?

♦ Увосень — работ восем.

♦ Калі бяроза жаўцее ўвосень з верхавіны, наступная вясна будзе ранняя, а калі знізу, дык позняя.

♦ Увосень і верабей багаты.

♦ Шмат жалудоў на дубах — на цёплую зіму.

♦ Вялікія мурашнікі ўвосень — на суровую зіму.

---

1 Знайдзіце і прачытайце толькі прыказкі. Растлумачце іх сэнс.
2 Пра якія народныя прыметы вы даведаліся?

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ ПА ТЭМЕ

- З якіх вершаў гэтыя радкі?

Сцелюцца валокны,
Тчэцца павуціна —
Блізка, блізка восень,
Смутная часіна!

Вуж
паўзе
сабе
дарожкай…

Хвошча, хвошча дождж.
Воўк схаваўся ў хвошч.

Жыве ў цёмным лесе
спагадлівы зайчык,
каго ні сустрэне,
дасць хлеба акрайчык.

- Якія творы аб восені вас найбольш уразілі?
- Ці падабаецца вам восень? Чым?
- Яшчэ раз прачытайце эпіграф да раздзела. Пра які восеньскі агонь гаворыцца ў ім? Якія фарбы пераважаюць восенню ў прыродзе?

# З РОГА ЎСЯГО МНОГА



*Ад прадзедаў спакон вякоў*
*Мне засталася спадчына...*
Янка Купала

## З РОГА ЎСЯГО МНОГА

*(Казка)*

Жылі сабе дзед ды баба. Бедна жылі. Вядома, старыя: ні рабіць, ні зарабіць не могуць.

Дачакаліся яны вясны.

Ускапаў дзед каля кустоў невялікі загончык ды пасеяў проса.

Узышло проса, расце. Сонца яго грэе, дожджык палівае. Цешацца дзед і баба з проса, не нацешацца.

Пайшоў дзед аднаго разу паглядзець на сваё проса. Бачыць: а па ім жораў ходзіць, паламаў усё, патаптаў.

— Акыш, каб цябе! — закрычаў дзед на жорава. — Бач, дзе месца для пагулянак выбраў! Апош-



нюю маю надзею сваімі нагамі вытаптаў. Цяпер мяне з бабаю галодная смерць чакае.

— Не ведаў я, што проса тваё, — загаварыў жораў чалавечым голасам. — Думаў, што яно панскае. Даруй мне... Пачакай хвілінку, прынясу я табе падарунак.

Вяртаецца жораў і кажа дзеду:

— Вось табе цудоўная торбачка. Палажы яе перад сабою і скажы: «Торбачка, раскаціся, раскруціся, дай піцення, дай ядзення», — дык адразу ўсё будзе. А як наясіся, скажы: «Торбачка, згарніся!», — і торбачка зноў стане такой, як была.

Сказаў жораў ды паляцеў.

З таго часу пачалі дзед з бабай жыць — гора не ведаць. Запрашаюць усіх, каму есці няма чаго, а торбачка ўсіх такімі прысмакамі частуе, якіх і ў самога пана няма.

Даведаўся пра гэтую торбачку пан. Прыехаў да дзеда, убачыў, якую яду есць звычайны мужык, разгарэліся ў пана вочы, ён і кажа:

— Аддай мне гэтую торбачку. Навошта табе такая яда? А да мяне князі-паны ездзяць. Я іх частаваць буду. А табе — простаму мужыку — я замест яе дам простай яды воз: бульбы, хлеба, сала.

А не аддасі — забяру сілаю ды бізуноў табе дастанецца ад маіх слуг.

З панам спрэчкі кароткія. Аддаў дзед торбачку. Праходзіць тыдзень, а ад пана і простай яды няма. Пайшоў дзед да пана.

— Няма ў мяне для цябе хлеба, ідзі жабраваць! — кажа пан.

— То аддай, пане, маю торбачку, калі так, — просіць дзед.

— Ах ты, такі-сякі! — закрычаў пан. — Гэй, слугі, усыпце гэтаму жабраку дваццаць пяць бізуноў, каб больш не хадзіў сюды!

Схапілі слугі дзеда, збілі яго і выкінулі за вароты. Ледзь да хаты дапоўз стары. Ачухаўся ён ды зноў пайшоў на сваё былое поле, можа, сябра-жорава ўбачыць. Глядзіць — ляціць жораў.

Падзяліўся з ім дзед сваёю бядою, а жораў і кажа:

— Ёсць у мяне для пана адзін падарунак.

І прынёс срэбраны рог.

— Ты толькі скажы перад панам: «З рога ўсяго многа!» А калі задаволіш пана, скажы: «Ох, усе ў рог!»

Сказаў так жораў, узмахнуў крыламі і паляцеў. Пайшоў дзед да пана, а ў таго сталы ад яды аж ломяцца, гасцей поўны маёнтак.

— Што, дзед, скажаш? — пытаецца пан.

— Прыйшоў, паночку, па торбачку...

— Ха-ха-ха! — зарагатаў пан, узяўшыся за бокі.

— Бачылі вы гэтага старога дурня! Яшчэ бізуноў захацеў. Гэй, слугі, усыпце яму пры ўсіх маіх гасцях сто бізуноў!

А госці радыя на чужое гора паглядзець, смяюцца.

— Ды хацеў я яшчэ, паночак, падарунак табе даць.

— Падарунак давай, а бізуноў ты ўсё роўна атрымаеш.

— Правільна! Маладзец! — закрычалі пану госці.

Выхапіў пан у дзеда рог.

— А што з ім рабіць? Можа, з яго золата сыплецца? — закрычаў пан і пачаў трэсці рог.

— Можа і сыплецца... Хто яго ведае.

— Дык загадай, каб з яго золата сыпалася, — сказаў пан.

— З рога ўсяго многа! — крыкнуў дзед.

Тут, адкуль ні вазьміся, выскачылі з рога дванаццаць хлапцоў-малайцоў магутнай сілы ды з бізунамі і давай лупцаваць і пана, і яго гасцей.

Вось тут заенчылі ўсе, памякчэлі душою.

— Ой, прабач ты нас, дзядуля! Мы ж не хацелі табе зла, так толькі прытвараліся. А мы ж такія добрыя. Забірай сваю торбачку ды ідзі далей, нас толькі не чапай!

— Цяпер, пане, маёю торбачкай не адкупішся. Аддай маёнтак бедным людзям, а сам з гасцямі ўцякай куды вочы глядзяць.

— Ой, ай, а як жа я застануся без маёнтка? Хто ж на мяне рабіць будзе, хто карміць?

— Не хочаш, як хочаш, — кажа дзед. — Гэй, хлапцы, сыпце ўсе бізуны пану!

— Аддаю, аддаю маёнтак! — закрычаў пан.

— Ох, усе ў рог! — крыкнуў дзед.

Хлапцы-малайцы як вокам згледзець схаваліся ў рог.

Дзед палажыў рог у кішэнь і кажа:

— Заўтра прыйду праверу: калі не ўцячэш адсюль, зноў выпушчу на цябе сваіх памочнікаў.

І пайшоў дзед вясёлы дахаты — з торбачкай і з рогам.

А пан назаўтра яшчэ досвіткам пакінуў маёнтак: баяўся, каб дзед са сваімі малайцамі не вярнуўся.

---



***Жабра́к*** — той, хто жыве з міласціны.

***Бізу́н*** — прылада для біцця: сплеценыя раменныя палоскі, прымацаваныя да палкі.

***Маёнтак*** — панскі двор.

---

1. Ці прылятаў бы жораў, калі б ведаў, што гэта дзедава проса? Пацвердзіце словамі тэксту.
2. Ці толькі аб сваёй карысці рупіліся дзед і баба, атрымаўшы ад жорава торбачку.
3. Якім паказаны ў казцы пан?
4. Чаму жораў вырашыў даць дзеду другі раз не торбачку, а рог?
5. Пра што марылі паднявольныя людзі?
6. Прачытайце пачатак казкі (да сустрэчы з жоравам) павольна, нібы расказваючы яе.
7. Складзіце з пытанняў план казкі. Адказваючы на іх, коратка перакажыце казку.

## Беларускія і рускія прыказкі

Некаторыя прыказкі і прымаўкі ў беларусаў і рускіх агульныя. Пачуеш, напрыклад, рускую: «Работай до поту, так поешь в охоту» — і ўспомніш такую самую беларускую: «Працуй да поту — з'ясі ў ахвоту». І не ведаеш, ці гэта з Расіі прыйшла яна да нас, ці наша пайшла ў госці і засталася там.

Але ў большасці назіраеш такое. Здаецца, пра адно і тое ж думаў чалавек — беларус ён ці рускі, а сказалася ў кожнага хоць крышку, а то і вельмі адметна, па-свойму.

Падбяры да гэтых вось беларускіх прыказак і прымавак рускія адпаведнікі.

1. Кожнаму мілая хатка, дзе радзіла яго матка.
2. Ляжачага хлеба нідзе няма.
3. З размовы хлеба не з'ясі.
4. Не той друг, хто мёдам мажа, а той, хто праўду кажа.
5. За дурною галавою нагам няма спакою.

* * *

6. С разговоров сыт не будешь.
7. Бестолковая голова ногам покоя не даёт.
8. Всякому мила своя сторона.
9. Лёжа пищи не добудешь.
10. Недруг поддакивает, а друг спорит.

# СЦІЗОРЫК ЗЛАМАЎСЯ

*(Казка)*

Жыў некалі адзін пан, ды такі злосны, што проста бяда: ніхто не мог яму дагадзíць. Бывала, прыйдзе да яго хто што-небудзь прасіць, а ён як крыкне: «Што скажаш?» — дык той ад страху забудзецца і аб сваёй просьбе.

— Нічога, паночку, усё добра, — адказвае бядак калоцячыся.

— А па добрым што?

— Не ведаю, паночку...

— На стайню яго! — раве пан. — Даць яму розгаў, каб больш сюды не хадзіў!

От так і не дасць і слова вымавіць. Іначай той пан і не ўмеў з людзьмі гаварыць.

Было гэта вясною. Паехаў пан аглядаць свой новы маёнтак. Як паехаў, дык і застаўся там на ўсё лета.

Бачыць аканом, што доўга пана няма, а тут у двары бяда на бядзе едзе ды бядою паганяе. «Як жа, — думае аканом, — сказаць пану пра бяду?» Сам ехаць да яго баіцца. Надумаўся ён паслаць каго з дваровых. Ды няма ахвотніка. Каму хочацца дастаць ад пана лішніх розгаў?

А жыў там адзін чалавек. З выгляду так сабе, затое на язык бойкі: за словам у кішэню не лезе. Імя ён меў Сцяпан, але ўсе звалі яго проста Сцёпка. Малы, бач, ён быў ростам і шчуплы.

Дачуўся Сцёпка, што аканом шукае пасланца да пана, прыйшоў да яго і кажа:

— Пашліце мяне — я ўмею з панам гаварыць.

Рад аканом, ледзь не цалуе Сцёпку. Даў ён яму хлеба, сала, цэлую жменю медзякоў і выправіў у дарогу.

Ідзе Сцёпка, медзякамі пазвоньвае.

Доўга ішоў ён ці мала, прыходзіць, нарэшце, у новы маёнтак.

Прыйшоў да пана. Вітаецца:

— Добры дзень, паночку!

— Што скажаш? — хмурыцца пан.

— Усё добра, паночку.

— А па добрым што?

— Ды вось, паночку, прыслаў мяне аканом. Бачыце, панскі сцізорык зламаўся.

— Які сцізорык?

— Ды той ножык, якім пану пёры пісаць вастрылі.

— Як жа яго зламалі?

— Хацелі пану на боты шкуру з вы́жла злупіць, узялі сцізорык. Але на панскім выжле вельмі ж моцная шкура была. Ну, сцізорык і зламаўся.

— Якога выжла? Што ты пляцеш? — закрычаў злосна пан і хацеў ужо загадаць слугам, каб забралі Сцёпку на стайню і далі розгаў. Але Сцёпка пачаў расказваць далей:

— Гэта той самы сабака, што пан любіў браць на паляванне. Здаецца, калі не мыля́юся, пан аддаў за таго выжла суседняму пану трох мужыкоў...

— Што ж, мой лепшы выжал здох?
— Здох, пане, здох.
— З чаго ж ён здох?
— Каніны аб'еўся.
— Якой каніны?
— Ды мяса жарабца.
— Якога жарабца?
— Панскага ж буланага жарабца, з лысінкаю.
— Што ж, і ён здох?
— Здох, пане. А шкада, добры жарабец быў.
— О, я нешчаслівы!
— Э, пане, чаго вельмі турбавацца. Ужо ж ведама, калі жарабятка ўродзіцца з лысінкаю, то яно ці здохне, ці яго воўк з'есць.
— З чаго ж жарабец здох?
— Падарваўся, мабыць.
— Што ж на ім рабілі? Шпарка ездзілі, ці што?
— Ды не, пане, на ім не ездзілі, ён заўсёды на стайні стаяў.
— А што ж?



— Ваду, пане, вазілі.

— Але ж нашто была тая вада?

— Людзі ж кажуць, паночку, што як топішся, дык і за брытву ўхопішся. Як загарэўся панскі свінушнік, дык аканом загадаў і на жарабцы ваду вазіць.

— Што ж, і свінушнік згарэў?

— Згарэў, пане.

— Як жа ён загарэўся?

— Вось гэтага, паночку, добра не ведаю: мо ад пакояў.

— О, то і пакоі згарэлі?

— Згарэлі, пане, начыста, от быццам хто языком злізаў.

— І ўвесь двор згарэў?

— Увесь, пане; чыста, гладка, хоць рэпу сей.

Ухапіўся пан за галаву ды давай вохкаць.

— Але з чаго ж загарэліся пакоі? — зноў пытаецца пан у Сцёпкі.

— Ад свечак, пане.

— Для чаго ж паліліся свечкі?

— Ну як жа, пане, вядома, заўсёды свечкі паляць, як хто памрэ.

— Хто ж там памёр?

— Вечны спакой, каб ёй на тым свеце лёгка ікну́лася, — пані памерла.

— Што, што ты кажаш?.. Пані памерла?!

Пачуўшы такія навіны, пан зваліўся з крэсла, а Сцёпка за шапку — ды падаўся сабе дахаты.

*Апрацаваў Алесь Якімовіч*



***Дагадзíць*** — задаволіць, зрабіць некаму тое, чаму той рад.

1 Якім малюецца пан у казцы?
2 Які быў Сцёпка на выгляд і які розумам?
3 Чаму Сцёпку ўдалося расказаць пану самыя страшныя навіны?
4 Прасачыце, як Сцёпка ўпотай здзекуецца з пана.
5 Знайдзіце ў казцы прыказкі і прымаўкі.
6 Падрыхтуйцеся чытаць па ролях размову Сцёпкі з панам.

## АД КРАДЗЕНАГА НЕ ПАСЫЦЕЕШ

*(Казка)*

Былі ў аднаго чалавека два сыны. Як выраслі яны, бацька сказаў:

— Пара, сыны, за сталую работу брацца. Хто з вас чым хоча заняцца?

Маўчаць сыны: не ведаюць, якую сабе работу выбраць.

— Ну, дык пойдзем, — кажа бацька, — у свет, паходзім, паглядзім, што людзі робяць.

Сабраліся і пайшлі.

Ідуць так памаленьку, сыны да ўсяго прыглядаюцца, думаюць, якую работу ім выбраць.

Падышлі да адной вёскі. Бачаць: стаіць пры канцы вёскі кузня. Зайшлі яны ў кузню. Прыві-

таліся да каваля, пагаварылі. Старэйшы сын нават молат у рукі ўзяў — памог кавалю сякеру выкаваць.

І зноў далей рушылі.

Падышлі да другой вёскі. Старэйшы сын паглядзеў туды-сюды: не відаць кузні ў гэтай вёсцы. Вось ён і кажа да бацькі:

— А чаму б і тут кузню не паставіць? Я мог бы за каваля застацца. Мне гэта работа падабаецца.

Бацька зарадаваўся: знайшоў, думае, большы сын сабе спосаб да жыцця!

— Добра, — кажа, — будзь кавалём у гэтай вёсцы.

Паставіў ён сыну кузню, той і пачаў кавальскаю справаю займацца. Людзі яго хваляць, і сам ён сваёю работаю задаволены.

А меншы сын, колькі ні ходзіць, — ніяк не можа сабе работу выбраць.

Ідзе ён аднаго разу з бацькам каля лугу. Бачыць — пасецца на лузе вол. А вёска далекавата, і пастуха не відаць.

— Ці не пачаць мне, бацька, валоў красці? — кажа сын. — Работа гэта лёгкая, і кожны дзень з мясам буду. Растаўсцею і сам, як вол.

— Крадзі, — кажа бацька. — На тое ж я цябе і ваджу, каб ты сабе які сталы занятак выбраў.

Заняў сын вала і пагнаў дахаты. А бацька кажа:

— Пачакай мяне пры лесе — мне трэба яшчэ ў гэтую вёску заглянуць: там адзін мой знаёмы жыве...



Гоніць сын вала ды ўсё азіраецца, як воўк, ці не бяжыць хто за ім. Пакуль да лесу дагнаў, дык добра такі перадрыжаў.

Пачакаў ён на ўзлеску, пакуль бацька вярнуўся, і пагналі разам вала дахаты.

Зарэзалі дома вала, знялі шкуру ды пачалі варыць свежаніну.

Наварылі, бацька кажа сыну:

— Вось што, сынку, давай знімем меркі і паглядзім, хто з нас ад гэтага вала пасыцее.

Узяў ён шнурок, змераў шыю сабе і сыну і завязаў вузельчыкі.

Селі за стол. Бацька есць спакойна, а сын усё на дзверы паглядае: ці не ідзе хто вала шукаць? Забрэша сабака, пройдзе ці праедзе хто — сын за мяса ды ў каморку хавацца... А ў самога рукі і ногі дрыжаць.

І пайшло так дзень за днём.

З'елі нарэшце таго вала. Бацька кажа сыну:

— А цяпер давай шыі мераць: хто з нас пасыцеў?

Памералі, дык у бацькі шыя ўдвая патаўсцела, а ў сына ўдвая патанчэла.

Дзівіцца сын:

— Чаму гэта так?

Глядзіць на бацьку.

А бацька пасміхаецца.

— Бо ты еў крадзенага вала, — кажа ён.

— Дык жа і ты крадзенага еў!

— Не, я заплаціў за вала гаспадару і еў, як свайго. Таму я і пасыцеў. А ты як сядзеш за стол, дык страх адразу на шыю — скок і душыць! Праз гэта яна і худзее. Ад крадзенага, брат, не пасыцееш!



***Ста́лы*** — тут: пастаянны.

1. Чаму меншы сын, абраўшы «лёгкую работу», кожны дзень не меў спакою? Знайдзіце і зачытайце адказ у тэксце.
2. Чаму бацька спешна пайшоў у тую вёску, адкуль быў вол, а не адразу сказаў сыну, што красці нельга?
3. Знайдзіце ў тэксце размову бацькі з сынам, калі яны скончылі есці вала. Прачытайце яе па асобах.
4. Ці магло тое, пра што расказвае гэта казка, адбыцца ў сапраўдным жыцці?
5. Дзеля чаго складзена гэта казка? Знайдзіце ў тэксце самае важнае бацькава павучанне меншаму сыну.

**6** Складзіце з пытанняў план казкі і перакажыце яе блізка да тэксту.

**7** Ці лёгка выбраць сабе адпаведную спецыяльнасць і што для гэтага патрэбна?

## ЗАЛАТЫ ЗБАН

*(Казка)*

Хто ведае, было тое ці не было, — адно праўда, што жыў на свеце хітры і люты цар.

За ўсё сваё жыццё ні з кім ён не абышоўся падобраму, не было такога чалавека, якога б ён пашкадаваў, дапамог чым-небудзь, не было такога сабакі, якога б ён прылашчыў.

Усе, ад малога да сівога, баяліся цара. Сам цар баяўся толькі аднаго — старасці.

Цэлымі днямі праседжваў цар у сваіх пакоях і разглядаў сябе ў люстэрка. Заўважыць сівы во-



лас — вырве. Заўважыць зморшчынку — разгладзіць рукою.

«Нельга мне старэць, — думаў цар. — Цяпер усе мяне баяцца, ніхто пярэчыць не смее. А зраблюся стары і слабы, народ адразу перастане мяне слухацца. Як я тады з ім спраўлюся?»

І, каб нічога не нагадвала пра старасць, загадаў цар забіваць усіх старых.

З усіх бакоў краіны прыходзілі да цара жанчыны і дзеці, хлопцы і дзяўчаты — усе прыносілі цару багатыя падарункі, усе пралівалі горкія слёзы, усе малілі цара злітавацца над іх бацькамі і мужамі.

Нарэшце надаела цару слухаць штодня скаргі і нараканні.

Паклікаў ён сваіх ганцоў і загадаў ім па ўсіх гарадах і сёлах, на ўсіх дарогах і плошчах абвясціць народу пра сваю міласць.

Вось асядлалі ганцы коней і раз’ехаліся ў розныя бакі.

На ўсіх скрыжаваннях і плошчах трубілі яны ў трубы і голасна выкрыквалі:

— Слухайце ўсе! Слухайце ўсе! Цар даруе вам сваю міласць. Хто дастане з дна возера залаты збан, той выратуе жыццё свайго бацькі, а збан атрымае ва ўзнагароду. А хто не зможа дастаць збан, той і бацьку не выратуе, і сам без галавы застанецца. Такая царская воля!

Не паспелі ганцы аб’ехаць і палавіны краіны, як пачалі сходзіцца і з’язджацца да возера храбрыя хлопцы.

Бераг возера быў абрывісты, і з яго вышыні праз чыстую, празрыстую ваду выразна відаць быў залаты цудоўны збан з тоненькім горлачкам, з узорнаю разьбою, з гнутаю ручкаю.

І вось мінула дзевяноста дзевяць дзён. Дзевяноста дзевяць хлопцаў спрабавалі сваё шчасце. Дзевяноста дзевяць галоў адсек люты цар, бо ніхто не мог дастаць збан з дна возера, — нібы яго зачараваў хто.

Зверху паглядзець — збан кожнаму відаць, а ў вадзе ніхто знайсці яго не можа.

У гэты самы час, у гэтай самай старане жыў хлопец Аскер. Вельмі любіў Аскер свайго бацьку, і калі ўбачыў, што бацька робіцца стары, што на твары яго з'яўляюцца зморшчыны, а валасы сталі шэрымі ад сівізны, павёў Аскер бацьку далёка ў горы, у глухое месца, пабудаваў там шалаш і ў гэтым будане схаваў свайго старога.

Штодня, калі сонца хавалася за горы, юнак прабіраўся да яго і прыносіў яму яду.

Вось аднаго разу прыйшоў хлопец да бацькі, сеў каля яго і задумаўся.

— Што за клопат у цябе на сэрцы, сыне? — спытаўся стары. — Можа, надакучыла табе кожны дзень прыходзіць сюды?

— Не, тата, — адказаў хлопец, — каб бачыць цябе жывым і здаровым, я гатовы тройчы ўзлазіць на гэтыя горы. Іншы клопат у мяне. Ні ўдзень, ні ўночы з мае галавы не выходзіць залаты збан. Колькі ні думаю, ніяк не магу зразумець, чаму гэта, калі з берага глядзець у празрыстую ваду, збан так

выразна відаць, што, здаецца, працягні руку — і ён твой. А варта каму-небудзь скокнуць у ваду — вада адразу мутнее і збан знікае, нібы скрозь зямлю правальваецца.

Стары моўчкі выслухаў сына і задумаўся.

— Скажы мне, сыне, — сказаў, нарэшце, стары, — ці не стаіць на беразе возера, у тым месцы, адкуль відаць збан, якое-небудзь дрэва?

— Стаіць, — адказвае хлопец, — ад дрэва на ваду падае вялікі цень, і якраз у гэтым цяні збан.

— Разумею... Той збан, што з вады відаць, гэта толькі адбітак сапраўднага збана...



Не паспеў дакончыць стары, як Аскер хутчэй за стралу паімчаўся.

— Літасцівы цар, — закрычаў ён, — я дастану збан. Цар засмяяўся.

— Толькі тваеё галавы мне нестае да поўнага ліку. Дзевяноста дзевяць галоў я ўжо адсек, — твая будзе сотая.

— Можа так, а можа і не так, — адказаў хлопец. — Баюся я, што на гэты раз не зраўняць табе ліку.

— Што ж, паспрабуй свайго шчасця, — сказаў цар і загадаў слугам найвастрэй натачыць сякеру.

А хлопец падышоў да берага і, не задумваючыся, палез на дрэва, якое расло на самым краі берага. Народ, які сабраўся на беразе, так і ахнуў ад здзіўлення.

— Божа, злітуйся над ім! Відаць, ён са страху страціў розум! — казалі яны.

— Можа, ён з дрэва хоча скочыць у ваду, — казалі другія.

А хлопец тым часам узлез на самую верхавіну і там, сярод галін, знайшоў залаты збан — з тоненькім горлачкам, з узорнаю разьбою, з гнутаю ручкаю.

Толькі вісеў ён на дрэве ўгару дном, для таго каб у вадзе відаць быў, як трэба, угару горлачкам.

Зняў хлопец збан з дрэва і прынёс цару.

Усе навокал дзівяцца.

Цар ажно пляснуў рукамі.

— Ну, — кажа, — не чакаў я ад цябе такога розуму. Няўжо ты сам дадумаўся, як дастаць збан?

— Не, — адказаў хлопец, — я сам бы не дадумаўся. Але ў мяне ёсць бацька, якога я схаваў ад тваіх вачэй, і ён здагадаўся, дзе захаваны збан. А я толькі паслухаў яго рады і знайшоў.

Задумаўся цар.

— Відаць, старыя людзі разумнейшыя за маладых, — сказаў ён, — калі адзін стары адгадаў тое, што не маглі адгадаць дзевяноста дзевяць хлопцаў.

Пляснуў ён у далоні і паклікаў сваіх слуг.

З таго часу ў той краіне ніхто пальцам не смее крануць старых, усе шануюць іх сівізну і мудрасць, а калі спатыкаюць старога чалавека на вуліцы, даюць яму дарогу і нізка кланяюцца.



***Злітáвацца*** — змілавацца.

1 Знайдзіце месца ў творы, дзе апісваецца нораў цара.

2 Чым спадабаўся вам Аскер?

3 Якім паказаны бацька Аскера?

4 Прачытайце радкі ў казцы, дзе гаворыцца пра пашану да старых і ўвагу да іх мудрасці.

5 Складзіце з пытанняў план твора. Адказваючы на іх, перакажыце казку.

## ПРЫКАЗКІ

*Прыгожая птушка пер'ем, а чалавек вучэннем.*

*Не той шмат ведае, хто доўга жыў, а той, хто шмат вучыўся.*

*Кніжка чалавеку — што ліпа пчолцы.*

*Навуку вывучай і дзедавага слова не забывай.*

*Век жыві, век вучыся.*

## КАНЦОЎКІ КАЗАК

Я там быў, мёд-піва піў, па барадзе цякло, а ў роце не было. Далі мне там боты шкляныя, капялюш васковы, сурдут папяровы. Як я быў рады, пайшоў, падскокваючы, дахаты. Ішоў, ішоў, спаты-

кнуўся на камень, а боты — дзын, дзын! — і пабіліся. Дождж паліўся — сурдут размок і з плеч зваліўся, а потым сонца як прыпякло, дык з капелюша і пацякло. Пайшоў я дахаты, каб даць сабе якой рады. Знайшоў па дарозе вясло, мяне сюды і прынясло. Вам — казка, а мне абаранкаў вязка.

Пасеяў мужык аўса, вось і казка ўся.

Далі мне пірог, я — за парог.

Тут і казцы канец, а хто слухаў — маладзец.

---

1 Якая з гэтых канцовак найбольш падыходзіць да вясёлай, смешнай казкі?

2 Успомніце некалькі выразаў, якімі звычайна казкі пачынаюцца.

3 Успомніце і раскажыце казку. Не забудзьцеся ўжыць выразы, якія звычайна сустракаюцца ў казках.

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ ПА ТЭМЕ

- Каго найбольш высмейваў народ у казках?
- Якія якасці людзей ухваляюцца ў казках? Прывядзіце прыклады.
- Якія творы вуснай народнай творчасці, апрача казак, вы можаце назваць?
- Чаму ў народных песень, казак няма аўтара? Раскажыце сваю любімую казку.

# ОЙ, ЗІМА, ЗІМА, ЗІМА!
# ВЕСЯЛЕЙ ЦЯБЕ НЯМА





*Люблю зіму з яе марозам,*
*Што вокны прыбярэ ва ўзор,*
*І белы снег, што, ўкрыўшы поле,*
*Ірдзіцца бляскам ясных зор.*

Канстанцыя Буйло

## ПЕРШЫЯ СНЯЖЫНКІ

*Ярдан Радзічкаў*

Ці заўважалі вы, якія нясмелыя першыя сняжынкі? Як яны мітусяцца ў паветры, кружаць на месцы, не ведаючы, куды апусціцца.

Але куды б яны ні апусціліся, адразу растаюць. За імі падаюць другія. А за імі ўзнікаюць новыя. Танцуюць ці кружацца сарамліва — бо яны ж першыя. Незлічонае мноства сняжынак ляціць ім услед.

Змяркаецца. Зямлі амаль ужо не відаць, а пазней у цемені цэлыя хмары сарамлівых сняжынак, бясшумна сутыкаючыся і кружачыся, падаюць уніз на зямлю. За ноч адбываецца цуд.



Раніцою толькі расплюшчыў вочы: у пакоі светла, весела, пабялелі сцены, столь.

Падбягаю да акна. А там белыя шапкі на дамах, на дрэвах, белыя вуліцы...

Выскокваю на двор. Бяру ў далоні мяккі чысты снег, расціраю ім рукі, мыю твар. Потым ляплю снежку і кідаю ў вяршыню таполі. Яна незадаволена шуміць і абсыпае мяне снегам...

---

**1** Ці падобныя ў творы сняжынкі да жывых істот? Пацвердзіце гэта словамі з тэксту.

**2** Што змянілася раніцой у пакоі, на двары?

**3** Выкарыстоўваючы словы і выразы з твора, раскажыце пра першы снег у гэтым годзе. Назва якога месяца напамінае нам аб снезе?







## ЗАЙЧЫК

*Міхась Пазнякоў*

Закружылі завірухі,
Затрашчалі маразы.
— Зайчык, зайчык даўгавухі,
Ці не мерзнеш ты, скажы.
— Я заўсёды рупны, хуткі,
Загадзя зіму сустрэў:
Кажушок, як снег, бялюткі
На зімовы час надзеў.

---

**1** Чаму зайчык мог адказаць, што ён не баіцца завірухі?

**2** Раскажыце, як рыхтуюцца да зімы іншыя жыхары лесу.

## ЦІ ЁСЦЬ ЗІМА?

*Алег Буцень*

### I

Была халодная восеньская раніца. Вызірнула сонца з-за хмаркі, скоса кінула промні на зямлю. Зазірнуў адзін з іх у норку да старой чарапахі, разбудзіў яе. Выпаўзла чарапаха на луг і няспешна пасунулася шукаць сабе снедання.

Вядома, яно ў чарапахі простае: зялёныя лісточкі, сцяблінкі, смачныя карэньчыкі. Доўга і шукаць не трэба. Вось і снеданне прыдбала.

## II

Раптам чуе — нехта гукае ёй:

— Добры дзень, чарапаха!

Глянула чарапаха ўгару, бачыць: на пяньку сарока сядзіць.

— Добры дзень, сарока-белабока, — адказала чарапаха. — Чаго гэта цябе сюды занесла?

— Ляцела і цябе ўбачыла. Навіна ёсць. Ужо шмат птушак уцякло ад зімы, у вырай паляцела. Як жа ты ўцячэш ад зімы, калі за дзень і да гэтага дрэва не дапаўзеш?

— Глупства ты кажаш. Якая там яшчэ зіма? Адкуль яна?

— Як якая? Халодная, з маразамі. Калі ўся зямля пакрыецца снегам і няма чаго есці.

— Снегам, кажаш, зямля пакрыецца? — перапытала чарапаха і паківала галавою. — Нешта не



прыпамінаю такога. Вось хутка трыццаць гадоў мне, а ніякага снегу не бачыла.

— Няўжо ніколі не бачыла?

— Ці я калі хлусіла? — пакрыўдзілася чарапаха. — Зроду не чула.

Сарока забегала па пяньку.

— У мінулы год я на свае вочы бачыла снег. Ён такі белы-белы і пухкі, мякчэйшы за мох. А мароз... Ад яго нікуды не ўцячэш, скрозь дастане, нават лапы мерзнуць. І няма чаго есці. Страх!

— Не выдумляй, — прамармытала чарапаха. — Глянь, колькі ўсякай яды наўкола. Куды яна падзенецца?

— Ах так! Ну, пачакай, ты ўжо хутка даведаешся, што такое зіма, і добра наплачашся! — выгукнула сарока і паляцела ў лес.

## III

На другі дзень, убачыўшы ў лесе варону, адразу застракатала:

— Кумачка, ты толькі паслухай. Сустрэла ўчора я на лузе старую чарапаху, хацела папярэдзіць, што ў гэтым годзе будзе лютая зіма. А яна смяецца з мяне. Кажа, што ніякай зімы не бывае, ніякага снегу.

Паглядзела варона адным вокам на сароку і сказала:

— Чарапаха проста ніколі не бачыла зімы. Яна з восені засынае і спіць аж да вясны, калі ўжо снег растане...

1 Чаму чарапаха не паверыла сароцы, што настане зіма? Знайдзіце адказ у тэксце і прачытайце.

2 Паглядзіце на малюнак і адкажыце, хто яшчэ мог бы так, як чарапаха, адказаць пра зіму.

3 Прыдумайце назвы да кожнай часткі апавядання.

## ШТО ПРЫНОСІЦЬ НОВЫ ГОД?

*Леанід Дайнека*



Што прыносіць Новы год?
Новы снег і новы лёд.
Новы ў полі лыжны след.
Новы ў новы цырк білет.
Новыя канькі, свісткі.
Новыя канікулы.
Новы дождж. І новы гром.
Пераезд у новы дом.
Новы смачны апельсін.
Не злічыць усіх навін!
Дык па-новаму жывіце,
Толькі ўважліва сачыце,
Каб у торбе Дзед Мароз
Новых двоек не прынёс.



1 Вучням ці дарослым адрасаваны гэты верш? Чым вы гэта дакажаце?

2 Як мяняецца настрой твора?

3 Якія радкі верша вы прачытаеце сур’ёзна, а якія з усмешкаю?

# ПАДКОРМЛІВАЙЦЕ ПТУШАК!

*Якуб Піноўскі*

Дзіўнае гэта наша надвор’е. Аднаго дня амаль цёпла, а на другі дзень можа быць ужо зіма. Можа, не ўсе памятаем, як у снежні мінулага года снег за адзін дзень і ноч услаў тоўстым покрывам зямлю. А мароз убяліў ствалы, сукі і галінкі дрэў скарыначкаю лёду. Для дзяцей дзень гэты пэўна ж быў днём радасці і забавы. Яны маглі нарэшце пагуляць у снежкі, пайсці з канькамі на коўзанку.

Але што ў гэты самы дзень рабілі, напрыклад, сінічкі? Зімовы дзень вельмі кароткі. Сінічка павінна шмат пазавіхацца, каб знайсці досыць корму. А спажыць ёй трэба на дзень гэтулькі, колькі важыць сама. Калі снег прыкрые зямлю, сінічка не можа пажывіцца сярод апалага лісця, бо цяжка ёй дабрацца да яго. А калі яшчэ і лёд аблепіць усю кару, то сінічкі не могуць нічога знайсці і галадаюць. Першыя два дні спажываюць уласныя запасы тлушчу, з-за чаго худнеюць, а калі не пацяплее — аслабелыя гінуць.



Гэтак жа даводзіцца і іншым сінічкам, як, напрыклад, сініцы блакітнай, а таксама чубатай, папаўзням.

Толькі дзятлы са сваімі моцнымі дзюбамі лягчэй даюць сабе

рады з ледзяною скарынкаю на галінах і ствалах дрэў.

Ці можам нашым сінічкам памагчы? Вядома. І вельмі проста, толькі не трэба чакаць самай зімы. Сініцы, попаўзні, дзятлы вельмі любяць, апрача насякомых, насенне раслін, у якім шмат тлушчу, як, напрыклад, насенне сланечніку або льнянога семя.

Кармушку проста зрабіць самому. Яна павінна прыкрываць корм ад ветру і снегу, а таму вешаць яе трэба каля кустоў ці дрэў, але так, каб кот туды не дабраўся, нават калі кармушка знаходзіцца пад акном. Можна таксама павесіць ці пакласці за акном нясолены кавалачак сала. Сінічкі старанна будуць выдзёўбваць тлушч.

Калі ж выязджаеце на зімовыя канікулы, нехта павінен вас замяніць і абавязкова штодня класці корм у кармушку. Чаму гэта так важна? А таму, што да добрай кармушкі злятаюцца сінічкі больш за кіламетр. І, заспакоіўшы першы голад, яны лятуць, калі добрае надвор'е, шукаць свой звыклы корм, гэта значыцца насякомых.



Калі бывае непагадзь, птушкі чакаюць ля кармушкі пажывы, трацячы каштоўныя гадзіны кароткага зімовага дня, — і не знаходзяць яе, тым хутчэй гінуць з голаду. З васьмі сінічак перазімоўвае толькі адна.

Таму запомні: чым падкормліваць кепска, лепш не падкормліваць зусім.

А чаму хочам, каб больш сініц перажыло зіму, гэтага не трэба, бадай, тлумачыць.



***Ко́ўзанка*** — каток.

1. Якую карысць прыносяць птушкі лясам, садам, палям, агародам?
2. У насенні якіх раслін маюць патрэбу сінічкі ўзімку?
3. Чым яшчэ, апрача насення, можна падкармліваць птушак, якія жывяцца насякомымі?
4. Што галоўнае трэба памятаць, падкормліваючы сінічак?

## ПЯТРО

*Грыцко Бойка*

Трамвай быў перапоўнены,
З канькамі Пётр сядзіць.
А дзед сівенькі, згорблены
Каля яго стаіць.
Хтось да Пятра звяртаецца:
— Няўжо няможна ўстаць?
У школе, пэўна, вучаць вас
Старэйшых паважаць?
— А як жа!.. Толькі зараз мы, —

Пачулася ў адказ, —
У школе не займаемся,
Канікулы ў нас.

---

1 Чаму адказ Пятра выклікáе ў вас усмешку?
2 Што б вы адказалі Пятру?

## КРЫЎДА

*Алесь Пальчэўскі*

Прывык наш брыгадзір Ціхан Піліпавіч да свайго Мурзы: куды сам, туды і сабаку бярэ. Паехалі мы ў Сібір шукаць нафту, і Мурза з намі. Назвалі сабаку так за беленькую пляму пад вокам: нібыта замурзаны.

Усю зіму наша група геолагаў жыла ў вялікім сяле, і брыгадзір прывучыў Мурзу прыносіць з крамы пакупкі.



Спачатку Ціхан Піліпавіч разы тры схадзіў з ім у магазін сам, паказаў, дзе купляць, потым пасылаў ужо аднаго. Напіша запіску прадаўцу, што прадаць, паложыць яе разам з грашыма ў сумку і падасць Мурзу. А каб сабака ведаў, чаго ад яго хочуць, пакажа пусты пачак ад цукру. Мурза сказаць толькі не мог, а так усё разумеў: раз пусты па-

чак, значыць, цукар патрэбен. І ахвотна бег у краму. За гэта і яму перападаў то кавалачак цукру, то цукерка.

Імчыцца Мурза па вуліцы з сумкаю ў зубах. Убачаць сабакі, з двароў павыбягаюць і аж захліпваюцца ад брэху, снег лапамі дзяруць, а ён у той бок і не глядзіць. Не можа Мурза адбрэхвацца, калі ў яго пашчы вяровачкі ад сумкі.

Так бегаў ён усю зіму і вясну. Улетку нас перавялі на новае месца. На гэты раз мы паставілі палаткі каля раённага горада.

Надвячоркам брыгадзір пайшоў з Мурзам да новага крамніка знаёміцца. Купіў, што трэба, палажыў у сумку і даў Мурзу несці. Сам распытаў у прадаўца, калі адчынена крама, і сказаў, што будзе прысылаць сабаку.

І Мурза штодня бегаў у краму адзін.

Аднаго разу мы агледзеліся, што мала чаю, і пасля полудня паслалі Мурзу купіць.

Даўно мінуў час вярнуцца пасланцу з пакупкамі, а яго ўсё не было.

«Ці не загінуў дзе? — занепакоіліся мы. — Трэба ісці шукаць».

І трое нас пайшлі ў гарадок пасля работы. Крама была зачынена, і даведацца пра Мурзу мы нічога не змаглі. Вярнуліся назад, леглі спаць, але сон нікога не браў: надта шкада было сабакі.

Настала раніца. Паснедалі моўчкі і, невясёлыя, пайшлі на працу. Пад полудзень Мурза прыбег да

нашай вышкі з сумкаю ў зубах. Палажыў яе каля гаспадаровых ног і сам лёг на зямлю.

Развязаў Ціхан Піліпавіч сумку, а там запіска ад сельскага прадаўца: колькі за што заплочана і рэшта — тры капейкі.

Брыгадзір так і ахнуў:

— Значыць, ты прабег сёння восемдзесят кіламетраў?!

Мурза толькі вільнуў хвастом.

Пазней мы даведаліся пра ўсё. Гарадскі прадавец адлучыўся з крамы ў кантору. Мурза пастаяў, пастаяў каля зачыненых дзвярэй і пабег у сяло да ранейшага прадаўца. Відаць, вырашыў: не вяртацца ж назад з пустою сумкаю. Але і туды не паспеў — краму зачынілі. Там перачакаў да раніцы і вярнуўся з пакупкамі.



Мы яго не толькі цукрам, але і добрым кавалкам мяса пачаставалі за такую службу.

З таго часу пасылалі Мурзу ў краму толькі раніцай. І вось аднаго разу Мурза вярнуўся без нічога. Засмучаны, распластаўся ў палатцы на зямлі, палажыў на выцягнутыя лапы галаву і пазірае на нас спадылба́. Клічам снедаць — не ідзе.

— Што, страціў сумку з грашыма? — жартуем. І суцяшаем: — Не перажывай, з кожным можа стацца бяда... Пара рублёў — грошы невялікія.

І пачалі мы гадаць, што магло з ім здарыцца ў дарозе.

— Можа, з сабакамі недзе сця́ўся, — казалі адны.

— А можа, злыя людзі адабралі сумку і грошы, — казалі другія.

Пасля снедання Ціхан Піліпавіч пайшоў сам у магазін да прадаўца. Той шчыра расказаў, як было. Узяў ён ад сабакі сумку, выняў грошы і падаў яму пустую. Хацеў паглядзець, што будзе рабіць Мурза. Сабака зірнуў у сумку і не ўзяў. Тады прадавец пачаў адпускаць іншых пакупнікоў, а Мурза цярпліва пастаяў яшчэ некалькі хвілін і, пакрыўджаны, пайшоў з крамы.

Вярнуўся брыгадзір з сумкаю і паказаў Мурзу пакупкі. Як віхор, усхапіўся сабака, завіляў хвастом ад радасці і кінуўся лашчыцца да гаспадара.

Назаўтра зноў паслалі Мурзу ў краму. На гэты раз ён ведаў, што рабіць. Прадавец дастаў грошы з сумкі, палажыў на прылавак, а сам пачаў чытаць

запіску, што прадаваць на іх. Тут Мурза адразу палажыў на грошы абедзве лапы.

Прадавец хацеў пералічыць грошы, але Мурза завурчэў. Гэта азначала: «Кладзі ў сумку пакупкі, возьмеш плату».

І колькі разоў ні спрабаваў прадавец узяць грошы, Мурза не даваў.

Людзі, што былі ў краме, абступілі, глядзяць, чым усё гэта скончыцца.

— Ну што, калі ты такі недаверлівы, давай з рук у лапы абмяняемся, — засмяяўся прадавец і падаў сумку з пакупкамі.

Мурза спакойна ўзяў у зубы сумку, зняў лапы з грошай, і толькі яго бачылі ў магазіне.

---



***Кра́ма*** — невялікі магазін.
***Рэ́шта*** — здача.
***Спадылба́*** — з-пад нахмураных броваў.
***Сця́цца*** — тут: счапіцца ў бойцы.
***Ла́шчыцца*** — з ласкаю гарнуцца да каго-небудзь.

---

1. Чаму сабаку клікалі Мурзам?
2. Які з апісаных выпадкаў найбольш уразіў вас? Падзяліце тэкст на часткі, складзіце план і падрабязна перакажыце твор.
3. Раскажыце, якую яшчэ службу нясуць сабакі.

## ПРЫКАЗКІ

*Вішня не апала — зіма не настала.*
*Снежань год канчае, зіму пачынае.*

# РАСТЛУМАЧ, ЧАМУ ЗАГАДКІ МАЮЦЬ ГЭТКІЯ АДГАДКІ

*Анатоль Клышка*





Ну і дзіўны посуд
носіш, браце, ты:
дагары дном — поўны,
дном уніз — пусты.

Пухнатыя ягняткі —
хто ж падумаць мог! —
днём яны з нагамі,
а ўначы без ног.





Зацемку-загадку
адгадайце вы:
з галавой ніжэйшая,
чым без галавы.

Ляжыць, дзе ты,
чатыры вухі, два жываты.

Каб дома яму не застацца,
за шыю палез абдымацца.

**1** Якія яшчэ загадкі вы ведаеце?



# БРАТЫ-АРТЫСТЫ

*Алена Васілевіч*

Іх было трое. І асірацелі яны на трэці дзень, як нарадзіліся на свет. Памятаю, прыйшла тады цётка Фядора з хлява ў хату, бядуе:

— Гэта ж такая авечка была!

А сяджу я на печы — мне тады гадоў дзевяць было — ды раптам як заплачу! Учора ж я сама бегала ў хлеў і бачыла ягнятак. Такія яны вясёленькія былі. Так падбрыквалі і смешна тыцкалі мордачкамі ў бакі матку-авечку — шукалі малака.

І вось яны засталіся без маці. Як жа будуць адны?..

— Што твае слёзы цяпер памогуць? — строга спыніла мяне цётка. — Апраніся лепей ды хадзем у хлеў. Трэба забраць іх у хату.

У мяне адлягло ад сэрца. Калі забяром ягнятак у хату, то яны ўжо не змерзнуць. І галодныя таксама не будуць у хаце.

Цётка злавіла і падала мне спачатку адно ягнятка, потым другое. Трэцяе яна ўзяла сама, і мы подбежкам кінуліся ў хату. Ягняты барукаліся, таўхаліся цвёрдымі капыцікамі і галасілі на ўвесь двор.

— Не плачце, дурненькія. Не плачце. У хаце вам будзе добра, — суцяшала я іх, бегучы па рыпкаму снегу. Снег сыпаўся мне ў валёнкі і пёк ногі, як агнём.

Мы з цёткаю прынеслі ягнят у хату і пусцілі на падлогу. Яны хутка асвойталіся і пачалі ўсюды тыцкаць свае цікаўныя насы, пачалі абнюхваць. А адно, відаць, самае ўпраўнае, ускочыла на лаву. А з лавы на стол. І давай абнюхваць абрус, якім быў накрыты хлеб.

— Гэтае не прападзе, адразу ведае, дзе шукаць, — пажартавала цётка. — Адрэж яму скібачку хлеба.

Я выканала цётчын загад. Але ягня не хацела. Панюхала, лізнула скібачку і адвярнулася. Гэтаксама зрабілі і яго браты: толькі лізнулі яго ружовымі язычкамі.

— Малыя яшчэ, — цётка дастала з шафы гладыш і наліла ягнятам малака ў місачку.

Яна падсунула місачку спачатку аднаму. Ягня тыцнулася пыскаю ў малако і смешна зафыркала. Не ўмелі піць з міскі і яго браты. Яны таксама смешна круцілі пыскамі і гучна фыркалі, распырскваючы малако.

— Цяпер будзе з імі работы, — незадаволена выліла малако ў свіное карыта цётка. — Трэба купляць соску і паіць, як маленькіх дзяцей, з бутэлькі.

Цётка сказала мне зноў апрануцца і збегаць да Заброцкіх — пазычыць соску. У Заброцкіх было малое дзіця, то павінна была быць і соска.

Пакуль я збегала да суседзяў, цётка нагрэла ў чыгуне з гарачай вадой бутэльку з малаком. Га-

лодныя ягняты галасілі на тры галасы. І галасней за астатніх патрабавала есці тое, што паспела ўжо ўскочыць на стол.

— Цяпер будзем, як з музы́камі, — дала цётка соску з малаком самаму галаснейшаму.

Ягня спачатку ніяк не магло злаўчыцца, а потым узялося, узялося і выпіла ледзь не паўбутэлькі малака. Браты яго адтапталі нам з цёткаю ногі: «Хутчэй, хутчэй! — нібы прасілі яны. — Мы таксама галодныя!..»

Наеўшыся, усе трое захацелі спаць. І хутка ўсе трое заснулі на старым кажушку, у куточку за печчу. Прачнуліся яны гэтак жа раптоўна, як і заснулі. Прачнуліся і зноў затупалі па хаце, забляялі.

— Што ж цяпер з імі рабіць? — сумеўся дзядзька.

— Соскі купляць. Вось што трэба рабіць, — дала адказ на дзядзькава пытанне цётка Фядора.

І назаўтра мой стрыечны брат Ціма паехаў аж за сем кіламетраў у мястэчка.



Купляць ягнятам соскі.

Зіма выдалася халодная. І браты-сіроты зімавалі ў нас у хаце. Клопату з ягнятамі хапала, але і радасці было шмат. Раслі браты хутка. І неўзабаве бутэлек з малаком было ім не набрацца. Тады я пачала прывучаць іх да хлеба і да сырой бульбы. Нарэжу лустачак — і ў рот кожнаму. Спачатку ягняты бульбы не любілі, а потым, як рассмакавалі, што гэта за ласунак, дык ужо выпрошвалі бульбу без усялякага сораму.

І наогул, есці і дурэць ім ніколі не надакучвала. Яны прачыналіся, калі на вёсцы не свяцілася яшчэ ні адно акно. Прачнуцца і давай адразу дурэць па хаце. На лавы скачуць, на ложкі... Ускочыць каторае і тупае па табе. Ну як тут улежыш...

«Мучыцелі» наперабой хапаюць з маіх рук хлеб і лустачкі бульбы. Ліжуць шурпатымі гарачымі языкамі мне рукі. Дзякуюць... Ну, ужо добра, добра. Не падлізвайцеся. У школу ўставаць рана, і я сама яшчэ хоць крыху пасплю.

Спіцца раніцою смачна. Асабліва, калі цябе разбудзілі апоўначы і паднялі з пасцелі. Разаспішся так, што нядоўга і школу праспаць... Але зноў: туп-туп-туп... Па тваім ложку, па тваіх нагах. Зноў нехта лізь цябе ў нос, у шчаку...

— Адчапіцеся, назолы! Не дадуць паспаць...

Так прайшла зіма ў нас.

А як пацяплела на дварэ, як зазвінеў у небе жаваранак, выправадзілі мы ягнят назад у хлеву-

шок. Выправадзілі — і неяк пуста і сумна зрабілася ў хаце.

Жылі мы ля самай школы. Таму я амаль на кожным перапынку бегала да сваіх выхаванцаў. Схаплю ў хаце які ласунак, выпушчу ягнят з хлява і гуляю з імі па школьным двары. Ды так важна, з такім гонарам перад усімі вучнямі! Маўляў, у каго ёсць такія разумныя бараны, як у мяне? А то пачну дурэць з імі. Я бягом па двары, а яны следам за мною. А то «піраміду» робім: два браты-бараны стануць поруч, а трэці ўскочыць і стаіць у іх на спіне...

Дзецям, вядома, цікава. Збяруцца ўсе ў круг. Смех. Крыкі. Усе наперабой мяне ўпрошваюць: зрабі тое, зрабі гэта...

— А што дасце артыстам?

— Дамо! Дамо!

І артысты сапраўды атрымліваюць шчодрую плату: яблык, ружовую моркаўку або кавалак смачнага пірага.

Так мінула вясна.

Настала лета.

Браты-артысты выраслі і сталі рагатымі баранамі. Цяпер яны штодня хадзілі з чарадою ў поле. Аднак і ў чарадзе трымаліся яны задзірліва і ганарыста. Маўляў, мы не такія, як усе астатнія бараны і авечкі...

А ўвосень і я пайшла ў школу ўжо ў другую вёску. Вечарам, ідучы выганам дадому, я не міна-

ла авечай чарады, дзе хадзілі і мае гадаванцы. Але яны ўжо не беглі да мяне. Яны ўжо не хацелі мяне пазнаваць.

І мне было сумна...

---

1. Прачытай, як асірацелі ягнняткі.
2. Як апісваецца снеданне ягнят?
3. Прасачыце, як мяняецца на працягу апавядання настрой. Як гэта сведчыць пра чулае сэрца дзяўчынкі?

## НА РЭЧЦЫ

*Якуб Колас*

Ніхто з дамашніх не згадае,
Чым рэчка Костуся займае,
Якая іх звязала сіла
І чым яна так хлопцу міла.
Бывала, толькі чуць разднее,
Чуць трошкі ў лесе пасвятлее,
Глядзіш — на рэчку ён шыбуе
І лёд сякеркаю мацуе.
То падбяжыць і скаўзанецца,
І сам сабе ён засмяецца;
На лёд глядзіць, штосьць разважае
І ў ход тапорык свой пускае.
Лядок закашляў, заіскрыўся,
На срэбра-друзачкі пабіўся;
Ляцяць крупінкі ледзяныя,
Бы ўлетку пырскі дажджавыя.

І чуць апошні лёд зламаўся,
З зямлі клубок вады падняўся
І з шумам коціць паўзверх лёду,
Пачуўшы волечку-свабоду.



***Шыбава́ць*** — хутка ісці.
***Мацава́ць*** — тут: спрабаваць моц.
***Пы́рскі*** — кроплі вадкасці, якія разлятаюцца ад усплёску, удару.

1 Прачытайце ўрывак, як Костусь любуецца рачною красою.

2 Знайдзіце радок, дзе пра лёд гаворыцца, як пра жывую істоту.

3 Як трэба паводзіць сябе на рэчцы зімою? Якую небяспеку тоіць рака?

4 Раскажыце, як вы праводзіце зімою на паветры вольны час.

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ ПА ТЭМЕ

• Успомніце назву раздзела і пацвердзіце яе прыкладамі з прачытаных твораў.

• Што вы заўважылі прыгожага ў зімовай прыродзе? Раскажыце пра свае назіранні.

• Падрыхтуйце невялікае вуснае апавяданне «За што я люблю зіму».

• Прачытайце на памяць верш пра зіму, які вы ведаеце.

# ВЯСНА, ВЯСНА! УСЕ ЁЙ РАДЫ...



*Па-над белым пухам вішняў,*
*Быццам сіні аганёк,*
*Б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі*
*Сінякрылы матылёк.*

Максім Багдановіч

## ЗАЙЧАНЯТКІ

Маладыя зайчаняткі ўжо з першай часіны добра бачаць і хутка бегаюць.

Маці-зайчыха амаль зусім не апякуецца імі. Толькі праз першых пару тыдняў жыцця, калі можа, прыходзіць іх карміць.

У цяжкай заечай долі здараецца і так, што матку-зайчыху, занятую пошукамі корму, сабака альбо іншы які звер заганяць аж за дзясятае поле.

Малыя галодныя шарыкі-пухнаткі сядзяць дзенебудзь у ямцы пад кустом і чакаюць, чакаюць мамы. Змерзлыя іх вушы пляската прылеглі да храбта, дрыжаць акачанелыя лапкі.

Тады прыходзіць з дапамогаю прыгожы заечы звычай.

Першая незнаёмая зайчыха, якая тут апынецца, затрымаецца ў ямцы і накорміць галодных зайчанят сваім тлустым малачком.

Бо, можа, якраз яе дзяцей недзе за дваццатым полем корміць у гэту самую хвіліну нейкая іншая шэрая матка.

*Паводле Марыі Кавалеўскай*



***Апекава́цца*** — тут: даглядаць.
***Акачане́лы*** — змерзлы на холадзе.

1. Якімі нараджаюцца маленькія зайчаняткі? Знайдзіце іх апісанне ў тэксце.
2. Чаму іх доля лічыцца цяжкай?
3. Прачытайце аб прыгожым заечым звычаі, які ратуе зайчанят ад голаду.
4. Якія выразы ўжыты ў творы ў значэнні «далёка» і «вельмі далёка»?

## НА НОВАЕ ЛЕТА





На новае лета
Зарадзі, поле, жыта,
Жыта, пшаніцу,
Усякую пашніцу.
Знізу карчыстае,
Пасярэдзіне — сцяблістае,
З самага верху — каласістае.
Каб з каласочка —
Ды жыта бочка,
А з другога —
Паўтара тога. *(З народнага)*



***Пашні́ца*** — тут: збожжа.

1. Аб чым прасіў селянін поле, выходзячы ўвесну на свой палетак?
2. Знайдзіце перабольшанне ў просьбе.

## МІХАЛКАВЫ ЗАПІСЫ ПРА ВЯТРЫ

*Максім Лужанін*

Павінны ведаць вы, сябры,
Што вельмі крыўдзяцца вятры,
Калі сказаць, што ў свеце
Адзін існуе вецер,
Усходні ці заходні,
Лагодны ці халодны.
Калі дыхне мядком з садоў,
Павее квеценню з лугоў,
Дык ведай: там ад рання
На працу стаў Мядзвянік.
Ён знае абавязак свой,
Нясе пылок ад хвой да хвой,
З расліны на расліну,
З травіны на травіну,
Каб завязалі завязь
Антонаўка і вішня.
Калі ж сустрэнецца з пчалой,
Ён дапамогу дасць малой,

Пад крыльца падтрымае,
Пот з рыльца абдзімае:
— Ляці хутчэй у свой вулей,
Назбірвай мёд
На цэлы год.

Упраўны вецер Вадахват,
Шумлівы, белабрысы,
Матне шырозным кры́ссем —
На ўзгорках пасушэе,
У долах патужэе,
І затахкае матор,
І па́ра ўздымецца з разор,
І ляжа чорным хібам
Адгорнутая скіба.

---



***Кры́ссе*** — полы (адзення).

***Скі́ба*** — тут: пласт узаранай зямлі.

***Хіб*** — тут: верхні край узаранага пласта зямлі.

---

**1** Чым падабаюцца паэту вясновыя вятры Мядзвянік і Вадахват?

**2** Што ёсць у вятроў Мядзвяніка і Вадахвата ад земляроба, садоўніка, пчаляра?

**3** Калі больш наглядна відаць работа вятроў:
а) калі б аўтар апісваў іх карысць ці шкоду для гаспадаркі;
б) калі паэт малюе вятры як жывых людзей, робіць іх то земляробам, то садоўнікам?

# ЗЕРНЕ

*Сяргей Дзяргай*

Колькі ў ім моцы,
Ў маленечкім зерні,
Кволым на погляд,
Нібыта мізэрным.

Сёння бадзёра
Настроена зерне:
Што вінавата —
Людзям яно верне.

Хай сабе спёкі,
Дажджы, сухавеі —
Жыта ўзыходзіць,
Расце, палаве́е.

Болей за сотню
На добрым сцябельцы
Дбала вырошчваюць
Нашы ўмельцы.

А не ўзрасці яна,
Гэта малеча, —
Голад на свеце,
Бяда і галеча.

Часам шкада яго
Ў жорны, на млíва,
Гэта маленькае,
Дзіўнае дзіва.



***Кво́лы*** — слабы.
***Мізэ́рны*** — вельмі малы.
***Палаве́ць*** — набываць жаўтаваты колер.
***Жо́рны*** — ручны млын.

1. У чым вялікае дзіва малечы-зярняці? Якія словы ў першым і пятым чатырохрадкоўях трэба падкрэсліць у вымаўленні, каб гэтая думка выступіла найбольш даходліва, выразна?
2. Як мы павінны адносіцца да хлеба?
3. Якія прыказкі вы ведаеце пра хлеб?

## ПРЫКАЗКІ

*Вясновы дзень год корміць.*

*Дзе шчодрая праца — там густа, а дзе лянота — там пуста.*

*Работы словам не заменіш.*

*Хто працуе, той і мае.*

*Дзе няма ахвоты, там няма работы.*

---

1. Чаму гэтыя прыказкі называюцца народнымі?
2. Якія яшчэ прыказкі аб працы вы ведаеце?
3. Прыдумайце да якой-небудзь прыказкі гісторыю і раскажыце яе.

## ПАЖАР

*Алена Васілевіч*

Сёння вялікоднае свята. Маня, прыбраная, сядзіць пад клёнам і чакае, пакуль выйдуць з хаты Ганька, Анюта і Грыша. І вось яны выходзяць. Маня падбягае да іх. У яе ёсць план: ісці ўсім гуртам на палянку, раскласці там агонь і частавацца. Цудоўна! Як гэта ім дагэтуль не прыйшла ў галаву такая бліскучая думка?..

Грышка, як адзіны мужчына тут, клопат пра агонь бярэ на сябе, і таму ён бяжыць па запалкі. Ганька, Анютка і Маня наладжваюць частаванне. Збегаць кожнай дадому і схапіць у кішэню па кавалку пірага і яшчэ чаго-небудзь, скажам, каўбасы ці вяндліны, ці якіх смачных салодкіх аладак —

на гэта таксама многа часу не патрабуецца. Праз гадзіну на Палянцы ўжо крык, смех. Ганька, Анютка і Маня цягаюць сухое ламачча. Грышка раскладвае агонь.

Агонь хітруе. Ён адразу ўступае ў дзіцячую гульню. Спачатку ён нібыта ўпарціцца. Лізне вузенькім гарачым язычком сухую галінку, глытне паветра і раптам зноў нібыта захліпнецца. Дзеці зноў яму сушняку, і ён зноў павесялее.

І толькі калі надакучыць яму гульня ў хованкі, ён раптам як ірване ўгору, як ахопіць усю кучу сушняку! Як затрашчыць, як сыпане з гарачага свайго мяшка іскрамі! Доўгі салапаты язык ледзь не хапаецца зялёных яловых галін. Кругом на вярсту гарачыня. Весела.

А дзеці ўсё падкідаюць то сушняку, то дроў! Каб полымя не толькі да ніжніх галін, але і да самай яловай вяршыні дастала...

А самі тым часам частуюцца, скачуць вакол агню, пераскокваюць цераз маленькія агеньчыкі, што адскочылі ад свайго вялізнага таты. Тым часам гэта вясёлая гульня не такая ўжо бяскрыўдная. Ганька прапаліла ў дзвюх мясцінах світку. У Грышкі штаны ўжо таксама ў дзірках. У цудоўнай чырвонай Анютчынай хустцы падкурэлі махры. Толькі асцярожная Маня ўберaглася. Яна не скача цераз агонь. Яна толькі ўсё падкідвае ламачча. А агонь разышоўся ўжо не на жарт. Ён ужо захапіў у свой палон усе ніжнія галіны і па сухой кары, па ствале, як вавёрка, скача ўсё вышэй і вышэй. Скача і

перакідваецца на суседнія дрэвы. Падсохла і ўзялася агнём ігліца, цягнучы агонь, нібы чырвоны кажух, усё далей і далей у лес.

Дзеці бачаць, што агонь пакідае жарты. І яны топчуць яго нагамі, прыбіваюць мокрымі лапамі. (Добра, што непадалёку глыбокая лужына.) Але дзе там! Агонь ужо ні на што не зважае. Абхапіў яліну з усіх бакоў і як страсяне, страсяне яе ўсю! І яліна шугае на ветры, як чырвоны сцяг.

— Давайце ваду хутчэй насіць!

— Залівайце агонь!

Але колькі ты наносіш тае вады прыгаршчамі ці няхай сабе і Грышкаваю шапкаю...

— Што нам рабіць?..

— Вось цяпер нам будзе...

— Давайце зваць дарослых...

Але ў вёсцы дарослыя самі ўжо ўбачылі.

— Нехта лес падпаліў!

— Палянка гарыць!



— Хутчэй трэба пажарную выклікаць!..

І вось нехта памчаўся выклікаць пажарную. Вось ужо з рыдлёўкамі, з вёдрамі, з сякерамі кінуліся па дарозе, цераз мосцік, на палянку людзі.

А полымя шугае ўжо не з аднае яліны. Агонь заваяваў увесь край лесу, агонь наступае цэлай сцяной. Яму смешныя гэтыя вёдры вады, што носяць з рэчкі і льюць, льюць на яго людзі.

Палянку ратуе ўся вёска. Агонь шалее. Кідаецца з краю на край, нібыта дражніцца. Але людзі не адступаюць, не здаюцца... Дзесьці праз гадзіну прыязджае пажарная каманда. Дзве вялізныя жалезныя бочкі з доўгімі «кішкамі».

Бойка з лясным пажарам канчаецца на захадзе сонца.

Нехта ўспамінае, нарэшце, пра віноўнікаў пажару.

— А дзе ж яны самі, гэтыя вужы печаныя?

Некаму прыходзіць думка пакараць «вужоў» так, каб дзясятаму заказалі... Каб на ўсё жыццё запомнілі, як жартаваць з агнём.

А «вужоў» тых — злачынцаў — і шукаць не трэба. Яны вяртаюцца ў вёску ў гэтым жа самым натоўпе. Ідуць разам з усімі — замурзаныя, задымленыя.

Яны не адступіліся ад свае віны. Не схаваліся ад страху. Яны таксама тушылі пажар...

Але ўцеха малая, асабліва як аглянешся на чорнае пажарышча.



***Гу́ртам*** — разам.
***Бліску́чы*** — тут: выдатны.
***Пры́гаршчы*** — абедзве далоні, складзеныя так, каб імі можна было што-небудзь узяць.
***Уцéха*** — радасць.

1 Якую гульню выбралі дзеці?
2 Прачытайце радкі, дзе малюецца, як разгараецца агонь. Знайдзіце дзеясловы. Чые дзеянні звычайна апісваюцца такімі дзеясловамі?
3 Што надае апісанню агню ўжыванне якраз гэтых дзеясловаў?
4 Прачытайце радкі, дзе агонь перайшоў у пажар.
5 Як жарты з агнём абярнуліся бядою?
6 Якіх засцярог трэба пільнавацца, раскладваючы агонь?
7 Складзіце план апавядання.
8 Перакажыце твор блізка да тэксту.

## ПЛІСКА

*Васіль Вітка*

Каля рэчкі блізка
Скача, скача пліска
На цыбатых ножках
У чорных панчошках,
Хвосцік толькі бліскае —
То ўгары, то нізка ён.



Плісачка ківаецца,
Дзеці пацяшаюцца:
— Вазьмі мяне, птушка,
На хвасце пагушкай.

1 Прачытайце радкі, у якіх гаворыцца, чым гэтая птушка адрозніваецца ад іншых.
2 Што дае падставу дзецям звярнуцца да птушкі з такой просьбай?
3 Падрыхтуйцеся выразна чытаць верш.

## ЖАРАБЯТКІ

*Алег Лойка*

Быццам бы
Смыляць ім пяткі,
Скачуць,
Скачуць жарабяткі!..

Як тут устаяць
Хоць трошкі,
Маючы
Чатыры ножкі.

І калі зялёны луг
І трава
Нібыта пух.

І лагодна
Сочаць маткі,
Як танцуюць
Жарабяткі!..

1 Якія радкі выклікаюць у вас цёплую ўсмешку?
2 «Скачуць жарабяткі!..» Які яшчэ выраз ужывае паэт, каб падкрэсліць вясёлыя, гарэзлівыя скокі жарабятак?
3 Які настрой верша? Якія словы трэба выдзеліць пры чытанні, каб перадаць яго настрой? Падрыхтуйцеся да выразнага чытання.

## ШКЛЯНКА КВАСУ

Нядаўна ў суседні дом пераехала новая сям'я. Было іх трое — бацькі і дачушка. Быў у іх і сабака. Гэтая новая дзяўчынка насіла цёмныя акуляры.

Я нецярпліва чакала, калі яна выйдзе на двор. Праз тыдзень я яе ўбачыла. Ішла яна з мамаю, і на нас, дзяцей, якія былі на двары, нават не глянула. Яна трымала сваю маму за руку, нібы зусім малое дзіця.

Праз нейкі час я зноў яе спаткала. Была нядзеля. Мы ехалі з бацькамі да бабулі. Дзяўчынка праходжвалася са сваім сабакам вакол клумбы. Вяла яна яго на павадку. Але выглядала так, нібы сабака яе вядзе. Ішла яна паволі і няўпэўнена. Я ўсміхнулася ёй, калі мы іх міналі. Але яна на мяне нават не глянула. Быццам мяне і не было.

«Як ты такая важная, то і будзь сабе такою. Ты мне не патрэбная», — сказала я сама сабе. І з тае пары перастала цікавіцца ёю.

Аднае суботы мы выправіліся з Еваю, з якой сядзім за адной партаю, пагуляць. Ля бочкі з квасам мы ўбачылі невялічкую чародку людзей. Хацелася піць. Мы таксама сталі ў чаргу. І тут убачылі гэтую новую. Яна была са сваёй мамай. Калі прадаўшчыца наліла ёй квасу ў шклянку і падала гэтай новай так, як і іншым дзецям, тая нязграбна штурхнула рукою і шклянка ўпала на зямлю. Яе мама адразу ж пачала моцна перапра-

шаць прадаўшчыцу. Тая сказала, што нічога страшнага, і наліла яшчэ раз у новую шклянку, за якую не ўзяла грошай. Гэта было проста нечувана!

— Гаротніца, нічога не бачыць ад нараджэння, нічагусенькі, — прамовіла прадаўшчыца не то да нас, не то да сябе, калі абедзве, маці і дачка, адышліся далей.

Мы пілі з Еваю квас, але ў гэты дзень ён не быў такі смачны, як заўсёды. Я не магла забыць таго, што здарылася. Дома я села за стол і заплюшчыла вочы. Я ўспомніла, што не раз баялася цемені. А незнаёмая дзяўчынка ўвесь час ходзіць як уночы, вобмацкам. Мне было вельмі шкада.

Калі праз некалькі дзён я ўбачыла, што сляпая дзяўчынка сядзіць адна на лаўцы, я адразу пабегла да яе.

— Мяне завуць Аня. Я жыву побач і даўно хацела з табою падружыцца, — сказала я. — Я ведаю, што ты не бачыш, — дадала яшчэ.

Дзяўчынка ўстала з лаўкі.

— А я Данута. Ці можаш ты сказаць, як выглядаеш? — спыталася яна.

Калі я расказвала пра сябе, Данута асцярожна дакранулася да маіх валасоў. Гэтак яна аглядала мяне пальцамі. Пасля дакранулася да маёй сукенкі.

— У цябе прыгожая брошка, — заўважыла яна, нібы яе ўбачыла.

— Адкуль ты ведаеш, што яна прыгожая? — здзіўлена запыталася я.

Данута ўсміхнулася.

— Ведаеш, я бачу пальцамі... Чую кожны шэлест вельмі выразна. Калі да чаго дакранаюся, то гэты прадмет пазнаю і запамінаю.

Мы гаварылі вельмі доўга і дамовіліся, што заўтра пасля ўрокаў зноў спаткаемся.

З таго часу мы з Данутаю padружыліся.

Хлопцы з нашага двара зайздросцяць ёй, што ў яе ёсць сабака. Завецца ён Мігдал і ўмее праводзіць чалавека, які не бачыць.

Гэта мудры сабака. Калі Данута ідзе з ім, то сабака перад пераходам спыняецца і ідзе толькі тады, калі пераход дазволены.

Мы з Данутаю часта ходзім на прагулку. Тое, што яна не бачыць, не перашкаджае нам у гульні. Данута мае багатае ўяўленне. Калі цяпер ідзём разам, не трымае мяне за руку, хоць рабіла так спачатку. Кажа, што адчувае, як я іду блізка побач з ёю, і не баіцца. Я вельмі, вельмі ўсцешылася, калі яна гэта мне сказала.

*Паводле І. Сыпулі*



***Гаро́тніца*** — няшчасная.

1. Прасачыце, як мяняліся Аніны думкі пра незнаёмую дзяўчынку.
2. Чаму квас падаўся дзяўчынкам у той дзень не такім смачным, як заўсёды?
3. Як нарастала спагада ў Ані, калі яна ўявіла сябе на месцы сляпой дзяўчынкі? Прачытай яшчэ раз гэты ўрывак тэксту.

4 Што пасля асабліва ўзрадавала Аню?

5 Ці змаглі б вы так спагадліва падысці да сляпой дзяўчынкі і падружыцца з ёю?

### СКОРАГАВОРКІ-ЯЗЫКАЛОМКІ

♦ *У бабра торба дабра.*
*Добра бабру: у бабра торба дабра.*

♦ *Далі Даню дома дыню.*

♦ *Паклаў Коля кола каля калодзежа.*

*Анатоль Клышка*

---

1 Як вы думаеце, адкуль пайшло слова «языкаломка»?

2 На паўтарэнні якіх гукаў будуецца кожная з гэтых скорагаворак?

## ПАМЯЦЬ

*Ванда Асухоўска-Арлоўская*

Бабуля хварэла вельмі доўга, а пад вясну ёй зрабілася яшчэ горш. Спачатку я думаў: увесну хваробы часта абвастраюцца.

Толькі калі забралі бабулю ў бальніцу і я ўбачыў, як яна робіцца ўсё больш бездапаможнаю і бледнаю, я пачаў разумець, што адбываецца.

Дома стала вельмі сумна, у мамы часта былі заплаканыя вочы. Тата маўчаў і дакараў, калі я паводзіў сябе занадта шумна і ўключаў гучную музыку.

І вось цяпер няма ўжо маёй бабулі, няма майго другога дома, маёй найлепшай схованкі ад усіх смуткаў і непрыемнасцей.

Да бабулі я мог прыйсці заўсёды, у кожную пару, і паскардзіцца ёй на ўсё і на ўсіх.

Прыходзіў, калі хапаў «несправядлівую двойку», і яна казала з усмешкаю:

— Гэта так ужо ў школе, што двойкі заўсёды несправядлівыя, а выдатныя адзнакі — заслужаныя. Са мною гэтак жа было.

Бабуля ўсё разумела, ведала, што ў жыцці бывае рознае. Але ведала таксама, што пасля смутку прыходзіць радасць, і ўмела мяне пераканаць у гэтым.

Я даведаўся ад яе, як важна перамагчы сябе, пераадолець сваю слабасць, а таксама прызнаць памылку.

Здаралася, што я прыходзіў да яе са скаргаю на бацькоў, якія былі таксама «несправядлівыя».

Тады яна суцяшала мяне, улагоджвала канфлікт.

Быў такі смутны дзень, калі мама, заплаканая, зусім не хаваючы слёз, сказала, што я павінен пайсці развітацца з бабуляю.

Бабуля была вельмі схуднелая, выглядала ў бальнічным ложку як малая дзяўчынка, толькі на бледным твары выдзяляліся вялікія вочы.

Яна з намаганнем усміхнулася нам, паказала рукою, каб мы селі.

Мама паклала на яе столік вялікі апельсін, спыталася, ці не хацела б трохі соку, але бабуля адмоўна кіўнула галавою. Потым мама нахілілася, пацалавала бабулю, і я бачыў, з якою цяжкасцю даводзіцца ёй стрымаць свой плач. Потым падышоў тата, пацалаваў бабулю ў шчаку, а пасля ў белыя, шчуплыя рукі.

Я падумаў тады, што цяпер мая чарга. А мне трэба было нешта сказаць бабцы. Штосьці важнае і толькі з вока на вока.

Я шапнуў пра гэта ёй на вуха.

Бабуля зразумела. Прашаптала:

— Дазвольце мне на хвіліну застацца з Янкам.

Мама і тата без слова выйшлі.

А я сказаў:

— Бабуля, калісьці я павёў сябе надта брыдка.

Яна паглядзела на мяне вельмі лагодна.

— Я паступіў несумленна. Мама купіла два бананы для цябе, калі ты хварэла. А я тыя бананы з'еў па дарозе. І ўвогуле да цябе не пайшоў... Потым сказаў маме, што табе яны вельмі спадабаліся. Ніколі пра гэта не забуду.

Я раптам адчуў слёзы ў вачах, і расплакаўся як малы.

Бабуля папрасіла, каб я нахіліўся да яе, абняла мяне і сказала:

— Давай дамовімся, што будзеш памятаць толькі тое, што было добрага між намі. Забудзься пра тыя бананы. Я таксама часам не хочучы магла зрабіць табе прыкрасць...

— Ніколі не было такога, — горача запэўніў я.

— Вось бачыш, ужо не памятаеш. Я таксама ўжо забылася пра гэтыя бананы. Калі мяне не будзе, памятай толькі пра тое, што было між намі добрага, што мы былі патрэбныя адно аднаму... Абяцай мне.



***Дакара́ць*** — папракаць.
***Пераканáць*** — прымусіць паверыць чаму-небудзь.
***Пры́красць*** — тое, што выклікае пачуццё незадаволенасці; непрыемнасць.

1 Кім была бабуля для Янкі?
2 Чаму хлопчыку захацелася расказаць бабулі пра выпадак з бананамі?
3 Прачытайце ўголас апошнія бабуліны словы. Як вы іх разумееце, чаму яны такія важныя?
4 Па чым вы заўважаеце, што ваша бабуля любіць вас?
5 Як мы павінны адносіцца да сваіх блізкіх?

## НАША ЛАВАЧКА

*Васіль Хомчанка*

Мы з Толікам на двары паставілі лавачку. Добрую, са спінкаю. Як толькі зрабілі, паселі і сядзім. Добра сядзець у цяньку пад ліпаю. Колькі хочаш сядзі, каго хочаш запрашай пасядзець — лавачка наша.

Вось так мы сядзім адны дзесяць хвілін, дваццаць.

З дому выйшаў наш сусед дзед Андрэй. Убачыў лавачку, здзівіўся: нічога не было, а цяпер лавачка стаіць.

Мы пасунуліся.

— Калі ласка, — сказалі дзеду Андрэю. — Гэту лавачку мы зрабілі.

Цяпер сядзім утрох. Дзед хваліць лавачку і нас малайцамі заве. Добра, кажа, у цяньку пасядзець.

З трэцяга пад'езда выйшаў яшчэ адзін дзед.

— Хадзі, Іван, пасядзі, — паклікаў дзед Андрэй.

Падышоў дзед Іван і спытаўся:

— Гэта ты, Андрэй, зрабіў лавачку?

— Не, мы з Толікам, — пахваліўся я, — наша лавачка.

Я ўстаў і даў месца дзеду Івану. Потым Толік саступіў месца бабулі, якая падышла да нас.

Мы стаім, а два дзяды і бабуля сядзяць на нашай лавачцы.



— Няхай пасядзяць, — сказалі мы. — Паспеем насядзецца.

Пагулялі ў двары, пабегалі па вуліцы, вярнуліся, а на лавачцы сядзяць тры бабулі. Схадзілі ў кіно, паабедалі, выйшлі на двор — зноў лаўка занятая. Нейкія дзядзька і цётка з дзіцем селі. Так у той дзень мы і не дачакаліся, калі можна будзе пасядзець на сваёй лавачцы. І на другі, і на трэці дзень тое ж самае — сядзяць людзі на ёй, а нас убачаць — хваляць:

— Малайцы, хлопцы. Такую добрую лавачку зрабілі.

Кожнаму хочацца пасядзець на лавачцы, а яна ж невялікая, толькі на тры чалавекі.

І рашылі мы зрабіць яшчэ адну лавачку, вялікую, каб усім хапіла месца...

— Цюк! Цюк! — стукае наша сякера.

Памагайце, малыя, мы робім другую лавачку. Большую, са спінкаю.

І для старых, і для малых.

---

**1** Чаму хлопчыкам давялося рабіць другую лавачку?

**2** Якія рысы характару хлапчукоў вам спадабаліся?

**3** З якой інтанацыяй вы прачытаеце апошнія два сказы апавядання, каб заахвоціць іншых да ўдзелу ў працы?

## ПОЛЕ

*Васіль Зуёнак*

Поле — не толькі зямля,
Гэта і неба, і ветрык,
І васілёк, што здаля
Свеціць душою прыветнай.

Гэта і жаўранка спеў —
Першынца хмаркі вясёлай,
Гэта надзеі пасеў,
Мудрасці жніўная школа.

Гэта і дождж, што ідзе,
Каб з ярыной паяднацца,
Гэта бяссонне людзей
І хлебадайная праца.

Поле — не поле без нас.
І перапёлкаю ў жыце
Кліча:
— У першы свой клас,
Дзеці, у поле бяжыце!



***Ярына́*** — засеянае ўвесну поле.

**1** Якія вызначэнні поля здаюцца вам асабліва важнымі? Як вы разумееце радок «Поле — не поле без нас»?

### ПРЫКАЗКА

*Дзе шчодрая праца — там густа, а дзе ляното — там пуста.*

# НА КАСМІЧНЫМ КАРАБЛІ

*Пятро Клімук*

Сённяшнія хлапчукі заўзята гуляюць у касманаўтаў. Мараць лятаць у космас, быць камандзірамі караблёў. А кожны касмічны палёт — гэта перш за ўсё праца, праца цяжкая, упартая, адказная.

Вядома, прафесія наша цікавая. З касмічнай вышыні добра відаць, што Зямля круглая. Такое можна ўбачыць толькі з космасу! І выглядае яна блакітнай.

Неба ў космасе, наадварот, не блакітнае, а чорнае. Зоркі на ім ярка-белыя, буйныя. Здаецца, вісяць яны так нізка над галавой, што можна дакрануцца да іх рукамі.

Сонца таксама выглядае не так, як з Зямлі. Яно нязвычна вялізнае, вельмі зыркае, ажно белае. У час заходу сонца робіцца чырвоным, яно сплюшчваецца ў палоску. І ўзыходзіць вельмі прыгожа. У тым месцы, дзе яно павінна выкаціцца з-за гарызонту, успыхвае колерны акаём, які пераліваецца, як вясёлка.

Вельмі ўражвае тое, што Зямля з космасу выглядае не такой ужо і вялікай. Я нарадзіўся і жыў пад Брэстам. І некалі са страхам думаў: колькі гэта дзён трэба ехаць ад Брэста да Уладзівастока цягніком! А на караблі мы праляталі гэту адлеглясць усяго за дваццаць хвілін.

Але мы лятаем у космас працаваць. Вынікаў кожнага касмічнага палёту з нецярпеннем чакаюць вучоныя.

Да палёту касманаўты настойліва і доўга рыхтуюцца. Якраз таму хочацца яшчэ раз падкрэсліць: самае галоўнае ў прафесіі касманаўта — праца і праца.

І ў дадатак да ўсяго — моцнае здароўе!

Жыць і працаваць у космасе нялёгка. Там усё траціць вагу. Бачыш, што ў цябе рукі і ногі на месцы, але іх ты не адчуваеш. Падымаеш руку, а ніякай сілы на гэта не трэба. Ледзь паварушыўся ў крэсле — і ты «плаваеш» па кабіне. Хадзіць ці бегаць у космасе немагчыма: ногі адрываюцца ад «падлогі».

Спаць можна толькі ў спальным мяшку, які прывязаны да борта карабля. Ды трэба і самога сябе прывязваць да мяшка. Бо спрасонку можна выплыць і прачнуцца далёка ад свайго спальнага месца.

З’есці што-небудзь у космасе ці папіць вады — таксама работа. Боршч альбо суп знаходзяцца ў алюмініевых тубах, якія падобныя да цюбікаў ад зубной пасты. Звінчваеш каў-



пачок, праколваеш кончыкам нажа дзірку. Пасля злёгку націскай на тубу і смакчы.

Хлеб упакаваны ў пакеты. Буханачка — малюсенькая, з палову запалкавага карабка, каб яе можна было зара́з укінуць у рот.

Адным словам, жыць у космасе складана, а працаваць вельмі адказна.



***Заўзя́та*** — напорыста, упарта.
***Зы́ркі*** — яркі, асляпляльны.
***Адка́зна*** — разумеючы важнасць, значэнне чаго-небудзь.

1. Што вас найбольш уразіла ў жыцці касманаўта на караблі?
2. Якім бачыцца сусвет з касмічнага карабля?
3. Што вы ведаеце пра нашых землякоў-касманаўтаў?

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ ПА ТЭМЕ

- Што цікавага вы заўважылі ў вясновай прыродзе?

- З якіх твораў гэтыя радкі?

Як тут устаяць
Хоць трошкі,
Маючы
Чатыры ножкі!

I ляжа чорным хібам
Адгорнутая скіба.

— Вазьмі мяне, птушка,
На хвасце пагушкай.

- Якія прыказкі аб працы вы ведаеце?
- Якія святы мы адзначаем увесну?
- Прачытайце на памяць свой улюбёны верш пра вясну.

# ІШЛА ВАЙНА НАРОДНАЯ



*Перамаглі мы светлым ранкам,*
*І ты заслала нам абрус,*
*Мая краіна-партызанка,*
*Мая Радзіма — Беларусь.*

Максім Лужанін



## ПЛОШЧА ПЕРАМОГІ

*Анатоль Астрэйка*

І ў будні дзень, і ў радаснае свята
Сюды, да плошчы, шмат дарог вядзе.
Сягоння паўшым у баях салдатам
Народ вянкі да помніка кладзе.

Нібы на варту, каля абеліска
Пасталі елкі ў веснім шынялі.
Завецца плошчай Перамогі ў Мінску
Адна з найлепшых плошчаў на Зямлі.

1. У гонар каго ўзведзены помнік?
2. Чаму на плошчы Перамогі запалены Вечны агонь?
3. Як яшчэ ўшаноўваецца памяць аб героях вайны?
4. З якім пачуццём вы прачытаеце гэты верш?
5. Вывучыце верш на памяць.

## ДЗЕЦІ БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ

*Алесь Махнач*

У чэрвені 1941 года Брэсцкая крэпасць першай уступіла ў няроўны бой з фашыстамі. Сярод мужных і гераічных абаронцаў крэпасці былі і дзеці. Гэта выхаванцы палка, сыны і дочкі камандзіраў, якіх вайна застала ў Брэсцкай крэпасці.

### Маленькія салдаты

Снарады кладуцца недзе непадалёку. Раз-пораз у цёмнае сутарэнне ўрываюцца пругкія хвалі паветра з густым перагарам дыму і раструшчанай цэглы.

Ад едкага пылу, што хвалямі ходзіць тут, Нюра забілася пад нейкія дашчаныя нары, заплюшчыла вочы.

Але і тут не схаваешся ад голаду, смагі. Яны неадступна даюць пра сябе знаць. Нават і ў кароткія хвіліны сну дзяўчынцы здаецца, што перад ёю плешчацца цэлы акіян вады, якую п’е-п’е, а на-

таліць смагу не можа. Нюра прачынаецца яшчэ больш стомленая, разбітая цяжкім сном.

Ёй цяпер можна было б з'есці кавалачак цукру, які ўжо трэція суткі ляжыць у санітарнай сумцы, але ён без вады, нібы той пыл, заб'е горла, пачнецца страшэнны кашаль...

У цёмным сутарэнні лазарэта чулася адно і тое ж:

— Піць... піць... піць...

Несціхана плакалі дзеці, прасілі вады і клікалі:

— Мама! Мама!..

Маленькія санітары стараліся падбадзёрыць, суцешыць дзяцей.

— Вада ўночы будзе! Будзе, вось паглядзіце́! Вось маё слова гонару! — упэўнена гаварыў Коля Новікаў. А пад вечар ён занепакоена тлумачыў Пецю Васільеву і астатнім сябрам: — Чулі? Я слова даў і ад вашага імя таксама. Да вады трэба дабрацца. Тут жа ў сутарэннях паміраюць...

Пецяабазваўся не адразу. Колю здалося, што сябар міма вушэй прапускае ягоныя словы.

— Я пра ваду кажу... — паўтарыў Коля. — Мы павінны да Мухаўца... Сёння ўночы...

— Таксама пра гэта думаю, — не падымаючы галавы, адказаў хлапчук.

— У мяне план нарадзіўся. Трэба так паўзці паміж забітых фашыстаў, што валяюцца на беразе, каб на цябе пражэктарамі з ракетніц свяцілі і не было відаць, што ты жывы.

Коля пачаў паказваць, як гэта робіцца.

— Плаўныя, замаруджаныя рухі павінны быць, як у чарапахі, — вучыў ён. — Тады і біклагі бразгаць не будуць і ніхто не разгледзіць, што ты паўзеш. Усе падумаюць: забіты фашыст ляжыць.

— Хлопчыкі, — спахапілася Нюра Кіжаватава. — А біклагі?

— Праўда, пакуль не сцямнела, трэба шукаць! — дадала Валя Зенкіна.

— Толькі не меней як дзесяць штук на брата, — заўважыў Пеця.

— І каб вечкі закручваліся добра, а то вада выбежыць. Гэтыя паўсотні метраў ад рэчкі будзем дабірацца з паўгадзіны.

Калі добра сцямнела, выхаванцы палка, абвязаўшыся біклагамі, выправіліся ў сваю нялёгкую дарогу. Праводзілі хлапчукоў Валя і Нюра.

— А можа, усё-такі сказаць нашым? Няхай ведаюць, што вы там... Каб часам не стралялі... бо



цёмна... — спрабавала ўгаварыць маленькіх салдат Нюра.

— Яшчэ чаго прыдумала?! — абурыўся такою заўвагаю Коля.

— Вы чулі: нам усім загадана сядзець у сутарэннях, не высоўваць носа на агнявыя пазіцыі, — умяшаўся ў размову Пятро Кацельнікаў.

— Пра заданне маўчаць. Яно сакрэтнае! — прамовіў Пеця Васільеў.

Нюры і Валі было страшна за сяброў. «Хлопчыкі! Не хадзіце! Вас там могуць забіць!» Здавалася, гэтыя словы вось-вось сарвуцца з вуснаў і паляцяць у трывожную цемру. А яе раз-пораз разрываюць на кавалкі вострыя, нібы кінжалы, прамені пражэктараў і ракет, што ўспыхваюць над ракой.

Але маленькім салдатам назад няма дарогі. Яны павінны дастаць ваду. Яны далі слова гонару. І яго трэба стрымаць!

Перад вачамі Нюры неадступна стаяць яе родныя: брацік Ваня і сястрыца Галя. Маленькія дзеці валяцца з ног, просяць бабульку, маму, Нюру:

— Вады... вады...

Ніяк з галавы не выходзіць і пагранічнік Грыша Ерамееў, які адбівае са свайго «максіма» шалёныя атакі гітлераўцаў і крычыць у адчаі:

— Браточкі! Вады! Апошняя ў кожуху кулямёта кіпіць!

Не! Дзяўчынкі не закрычаць услед хлапчукам: «Не хадзіце!» Дзяўчынкі будуць чакаць выхаванцаў палка з гэтага задання, імя якому — подзвіг...

Будзе раніцою лейтэнант Кіжаватаў праходзіць па лініі абароны і, як заўсёды, зазірне ў лазарэт. Лейтэнант з трывогаю паглядзіць на забінтаваную галаву Колі і занепакоена спытаецца:

— Што здарылася?

— Нічога страшнага! — пераадольваючы боль, нават з усмешкаю на твары скажа ў апраўданне хлапчук. Ён не выдасць тайны. І таму дадае:

— Уночы ў сутарэнні я на нейкую жалязяку наткнуўся.

Так лейтэнант і не даведаецца нічога пра герояў, якія рызыкнулі пайсці туды, адкуль у апошні час мала хто вяртаўся жывы.

І ніхто, апрача Нюры і Валі, не будзе ведаць, што гэтыя героі — выхаванцы палка. І што Колева «на нейкую жалязяку наткнуўся» — гэта кулявое раненне, якое хлапчук атрымаў у гэту ноч.



***Сма́га*** — моцнае жаданне піць.
***Сутарэ́нне*** — падзямелле, падвал.
***Сло́ва го́нару*** — чэснае слова.

1. Ці толькі для піцця патрэбна была вада абаронцам крэпасці? Падмацуйце свой адказ словамі з твора.
2. Чаму Коля не прызнаўся лейтэнанту, што ўначы атрымаў кулявое раненне?
3. Уяві, што ты быў сярод юных герояў Брэсцкай крэпасці падчас яе абароны. Падрабязна раскажы, як вы дабіраліся да ракі і прынеслі вады.

# ПАРТЫЗАНСКІ ТЭЛЕГРАФ

*Пятрусь Броўка*

Ён браў на службу птушак спевы,
Выццё ваўчынае ў бары,
Дапамагалі кветкі, дрэвы,
Нажы, рыдлёўкі, тапары.

І варта партызанаў знала,
Каго гукаў пастух-трубач,
Чаго зязюлька кукавала,
Чаго паветра драў дзяркач,

Чаму ўначы ці на світанні
Кракочуць качкі ў паплавах,
Чаго расплакалася ка́ня,
Чаго кугакала сава.

І без чарніла, без алоўка, —
Каб ведаў штаб, каб знаў дазор, —
Пісала на зямлі рыдлёўка,
На дрэвах — ножык ці тапор.

І ведаў штаб, што спланавана,
Ісці дарогаю якой —
Па тэлеграфе партызанаў
Мы ўсе збіраліся на бой.

---



***Ва́рта*** — група людзей, прызначаная ахоўваць каго-небудзь ці што-небудзь.
***По́плаў*** — луг каля ракі, які заліваецца ўвесну вадою.
***Ка́ня*** — драпежная птушка, крык якой нагадвае слова «піць» (рус. *чи́бис*).

**1** Якімі ўмоўнымі сігналамі карыстаўся «партызанскі тэлеграф»? *Верабей чылікае, ластаўка шчабеча, шпак свішча, сарока стракоча, сініца цінькае, салавей цёхкае, бусел клякоча...* Назавіце дзеясловы, якія ўжыў паэт, каб перадаць галасы розных птушак.

**2** Звярніце асаблівую ўвагу на гучанне другога і трэцяга чатырохрадкоўяў. Як ствараецца ў вершы галасістасць лесу? Якіх тут галосных найбольш? Адзначце іх пры выразным чытанні.

## АПАВЯДАННЕ САПЁРА

*Уладзімір Лідзін*

Гвардыі сяржант сапёрна-будаўнічага батальёна Арэф'еў, які нямала папрацаваў на цяжкім Волхаўскім фронце, расказваў мне вось што:

— Я вам пра хітрасць лісіцы раскажу. Як яна сябе на вайне паводзіла. Нас, між іншым, таксама сваёй хітрасці навучыла. На Волхаўскім фронце пад Старым Ракомам наткнуліся мы на міннае поле. Участак быў для нас важны: якраз праз яго, як выявілася потым, была назначана атака. Нас паслалі зрабіць у мінным полі праход. Выйшлі мы вельмі рана ўдвух: я і малодшы сяржант Гурэеў.

Зусім яшчэ сіне, ледзь паказвае на дзень. Пра работу сапёра вы, вядома, ведаеце: памыліцца яму толькі адзін раз даводзіцца.



Два дні была мяцеліца, узяўся мароз, усё снегам занесена. «Ну, — кажу Гурэеву, — цяпер глядзі, а то якраз пачастуешся». А немцы, ставячы міны, кожны раз парадак мянялі, не зразу разгадаеш.

Прайшлі мы так метраў трыста. Мароз, а з мяне пот цячэ. Раптам Гурэеў кажа: «Глядзі, лісіныя сляды... лісіца ішла». Я прыгледзеўся — бачу, сапраўды лісіца, толькі неяк дзіўна, не па-лісінаму пятляла, нібы вадзіла яе з боку ў бок. Я ўсё-ткі паляўнічы, разбіраюся ў гэтым. Сталі мы абодва разглядаць сляды: можа, падранілі яе, ды не — крыві не відаць. Тут цюкнула мне ў галаву адна думка: «А ведаеш, — кажу Гурэеву, — яна міны абыходзіла. Лісіца ж, калі чалавек у зямлю штонебудзь закапаў, за дваццаць крокаў чуе. А калі яна міны абыходзіла, то вось табе і гатовы праход». Пасунуліся мы праз поле па лісіным следзе і праз усё поле прайшлі і ні адной міны па лі-

сіным следзе не выявілі. Вярнуліся мы да полудня, дакладваю камбату: так і так, праход праз міннае поле пракладзены. «Нешта вы надта хутка, — кажа ён з недаверам. — Колькі ж мін знайшлі?» Мы нічога ўтойваць не сталі і расказалі ўсё, як было, пра лісіны спрыт.

Вось жа і звер да фашысцкай хітрасці прыстасаваўся і нам памог. Значыць, лісіца можа не толькі курэй красці.

---

**1** Што павінны былі рабіць сапёры ў час вайны?

**2** Як вы разумееце словы пра тое, што сапёр памыляецца адзін раз у жыцці?

**3** Як уважлівасць сапёраў дапамагла ім знайсці праход праз міннае поле? Прачытайце.

## ПАЛЯВАЯ КУХНЯ

*Георгій Граўбін*

Па дарозе мчыцца суп
З бульбы, з морквы, з ячных круп.

Без утрускі, без усушкі,
Цераз лужы, цераз брод,
З мясам, з перцам і з пятрушкай —
Разяўляйце, хлопцы, рот!

Нашы кухні палявыя,
Дзе яны ні пабылі!
Ўсе дарогі франтавыя
За гады вайны прайшлі.

Хтосьці можа запытацца:
— Што за бочкі гэта мчацца,
Шызы дым клубіцца з труб?

Гэта з перцам, з соллю, з кропам
Напрасткі ляціць галопам
Сытны, смачны і духмяны
І такі доўгачаканы
Баявы салдацкі суп!

*Пераклад Васіля Віткі*



***Напрасткí*** — па прамой лініі, самай кароткай дарогай.

1 Які настрой гэтага верша?

2 Назавіце словы, якімі аўтар апісвае суп у пачатку верша.

3 Пералічыце прыметнікі, якімі характарызуецца суп у канцы твора.

4 Падрыхтуйцеся выразна чытаць верш.

## ПЫТАННІ І ЗАДАННІ ПА ТЭМЕ

- Якія творы пра Вялікую Айчынную вайну вы чыталі? Якія тэле- і кінафільмы глядзелі?

- З якімі творамі гэтага раздзела можна звязаць прыказкі?

Смела ідзі ў бой — Радзіма за табой!
Герой ніколі не памрэ — ён вечна ў народзе жыве.

- З якіх твораў гэтыя радкі?

I ў будні дзень і ў радаснае свята
Сюды, да плошчы, шмат дарог вядзе
Сягоння паўшым у баях салдатам
Народ вянкі да помніка кладзе.

Нашы кухні палявыя,
Дзе яны не пабылі!
Усе дарогі франтавыя
За гады вайны прайшлі.

- Раскажыце, як дзеці бралі ўдзел у змаганні з фашыстамі.

# НАС ЛЕТА Ў НОВЫЯ ДАЛІ ВЯДЗЕ



*Эх, як добра сярод кветак*
*Летнімі дзянькамі!*

Якуб Колас

## У ЛЕСЕ

*Вера Вярба*





Мохам, ядлоўцам і смолкай
пахне ад цёплай зямлі,
колюць зялёныя голкі,
лётаюць важна чмялі.

Колькі б вы казак ні чулі,
колькі б ні зналі забаў,
лепшыя казкі і гульні —
ў лесе, між елак і траў.

1 За што асабліва любіць лес паэтэса?
2 Што вам падабаецца ў лесе?

## ГРЫБЫ

*Кастусь Цвірка*

Чырвоных, жоўтых — ля ўсіх сцежак,
светла-зялёных — па бары,
нібыта кветак, сыраежак
панастаўляна скрозь — бяры.

У векавых бярозах чорных,
як сподкі, круглыя грузды.
З іх, быццам бы ў сталоўцы шчодрай,
п’юць дожджык сойкі і дразды.

---

1. Чым падобны грузд да сподка?
2. На якой падставе грыбны лес параўноўваецца аўтарам са сталоўкаю?
3. Чым блізкія вершы «У лесе» і «Грыбы»?
4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання гэтых твораў, улічваючы іх настрой, інтанацыю, паўзы, лагічныя націскі.
5. Вывучыце адзін з гэтых вершаў на памяць.

## ЖУК І СЛІМАК

*Максім Танк*

Прыгожым летнім ранкам
на лузе за сялом
сустрэўся жук аднойчы
з рагатым слімаком.



— Здарова! — жук вітае. —
Куды, браток, ідзеш
і з ракавіны хатку
нашто з сабой нясеш?

Абцёр слімак пот з твару,
гаворыць так жуку:
— Нямала пераджыць мне
прыйшлося на вяку.

То сцюжа, то марозы,
то навальніца, дождж.
То часам у дарозе
захопіць змрок і ноч, —

шукай тады начлегу
пад нейкім там кустом...
Гавораць яны гэтак
і раптам чуюць — гром.

Ударыў дождж краплісты.
І жук пабег шукаць
дзе ў засені цяністай
шырокага лістка.

Але на цэлым лузе
няма страхі нідзе,
і мокры, ледзь жывы ён
да слімака ідзе.

— Пусці, браток, пагрэцца,
змок ду́жа на лугу,
насіць за гэта хатку
табе дапамагу.





У ракавіне шчыльнай
вандроўнікі сядзяць.
І нават дождж краплісты
не зможа іх дастаць.

Але мінулі хмары,
і сонца ўстала зноў,
жук хату слімакову
пакінуў і пайшоў.

Забыўся пра нягоды
і не наўме жуку,
што абяцаў паднесці
ён хату слімаку.





***За́сень*** — зацененае месца.
***Вандро́ўнік*** — падарожнік, асоба, якая вандруе, падарожнічае.

1 Знайдзіце радкі, дзе жук просіць слімака пусціць яго ў хатку. Прачытайце гэтыя словы так, каб слімак абавязкова паслухаўся.

2 Ці выканаў жук сваё абяцанне? Як вы прачытаеце апошнія радкі — ці з абурэннем, ці абыякава, ці са шкадаваннем?

3 Чым гэты верш блізкі да казкі?

4 Падрыхтуйцеся чытаць твор па асобах.

# СЭРЦА ЧАЛАВЕКА

*Уладзімір Ляўданскі*

Бой быў прыгожы, статны сабака і службу сваю нёс акуратна і добрасумленна да таго часу, пакуль яму ў заднія ногі не ўбілася нейкая хвароба. Пасля гэтага ён на вачах пачаў чэзнуць. Раней блішчастая гладкая поўсць стала дыбка, а на баках ад заўсёднага ляжання злямчылася і парыжэла. Нават голас у яго змяніўся — стаў нейкі глухі і сіпаты, нібы прастуджаны.

Гаспадар вельмі шкадаваў свайго вернага друга і як толькі мог ратаваў яго ад хваробы. Некалькі разоў ён запрашаў ветэрынара, але Бою не было лепш і ад лекаў. Адным словам, праз нейкі час ногі ў Боя зусім адубелі, перасталі гнуцца ў каленях, і ён ужо амаль не вылазіў з будкі.

— Лепш бы ты яго застрэліў, Тодар, каб не мучыўся так, — раіла жонка.

Так казалі і некаторыя суседзі. Але Тодар з гэтым ніяк не мог пагадзіцца. Яму ўсё яшчэ думалася, што сабака ачуняе, перадужае хваробу. Тыдні два яшчэ Тодар выводзіў Боя з будкі, расціраў яму ногі і на ноч прыкладаў кампрэсы. А нарэшце-такі і сам не вытрымаў: аднаго разу пад вечар прывязаў за ашыйнік аборыну, узяў на плячо стрэльбу і павёў Боя за сяло ў зарослае старое глінішча.

Сабака павольна, хістаючыся ад болю, паслухмяна дыбаў за гаспадаром, які моўчкі цягнуў яго за

сабою. А калі Бой не вытрымліваў і хацеў прылегчы, Тодар тузаў за аборыну і з ненатуральнай злосцю шыпеў:

— Ну, пайшлі, пайшлі... Так будзе і табе лепей, і мне лягчэй.

У глінішчы Тодар зняў ашыйнік, пасадзіў Боя каля старога арэхавага куста, адышоўся крокаў на дзесяць і пачаў цэліцца сабаку ў грудзі.

Раптам Бой, які дагэтуль пакорліва сядзеў і пазіраў на гаспадара, апусціў да самай зямлі галаву і так жаласліва заскуголіў, што рукі ў Тодара адняліся і стрэльба сама апусцілася. Некалькі хвілін Тодар стаяў анямелы, адчуваючы глухі балючы стук сэрца ў грудзях. Потым уздыхнуў, азірнуўся навокал і амаль шэптам паклікаў:

— Хадзі сюды, Бой, хадзі...

Але сабака сядзеў нерухома, апусціўшы галаву.

— Ну ідзі ж, гаротнік ты мой, — здушаным, дрыготкім голасам зноў папрасіў Тодар.

Бой і на гэты раз не зварухнуўся, толькі ляніва паварушыў хвастом. А калі Тодар сам падышоў да яго, ён перш спалохана адхіснуўся, задрыжаў усім целам, а потым завішчаў і стаў лізаць гаспадару рукі.



Зноў, нібы жалезным абручом, сціснула грудзі Тодару, а да горла падкаціўся цвёрды камяк. Ён адчуў сябе страшэнна вінаватым.

— Забудзься, пёсік, забудзься аб усім, — загаварыў Тодар, пяшчотна прыціскаючы галаву сабакі да каленяў. А пасля выцер далоняю шчокі, надзеў на Боя ашыйнік, нахіліўся і сказаў:

— Пайшлі, болей такога ніколі не здарыцца.

Дадому Бой ішоў без аборыны і за ўсю дарогу ні разу не прысеў.

— Ты што?! — здзівілася жонка, калі ўбачыла Тодара з Боем каля будкі. — Не застрэліў-такі? Эх ты, а яшчэ мужчына. Сабаку не мог збавіць ад пакут.

— Не мог, Анюта, от бачыш жа сама, што не мог, — вінавата прамармытаў Тодар, не ўзнімаючы вачэй, — такое ўжо сэрца ў мяне.

— Ну дык што ж цяпер будзе? — безнадзейна запыталася жонка.

Тодар ёй на гэта нічога не адказаў. Дапамог Бою ўлезці ў будку і моўчкі пайшоў у хату. А праз хвіліну выйшаў з кавалкам хлеба ў руцэ, аддаў яго сабаку, сам сеў на лавачцы каля плота і задумаўся.

Ён сядзеў так, аж пакуль жонка не адчыніла дзверы і не паклікала:

— Ты што, начаваць каля яго сабраўся, ці што? Вячэра вунь даўно ўжо астыла.

Нічога і на гэты раз не адказаўшы, Тодар пасядзеў яшчэ нейкі час, потым устаў і пайшоў у хату.

...Амаль усё лета пажыў яшчэ Бой, Тодар паправіў яму будку, падаслаў свежага сена і кожны дзень, не давяраючы цяпер жонцы, карміў яго сам. Яму нават здавалася, што сабака пачынае ўжо ачуньваць, весялейшы стаў.

І вось аднаго разу, калі Тодар вярнуўся з работы і прысеў адпачыць на ганку, Бой вылез з будкі, хістаючыся, прыклыпаў да гаспадара, паклаў яму на калені галаву і застукаў хвастом па зямлі.

— Што, мой гаротнік, надакучыла ляжаць? — пагладзіў Боеву галаву Тодар. — А ты давай пачынай хадзіць патроху, размінайся, так яно, бадай, лепей будзе.

Бой яшчэ мацней завіляў хвастом, жаласліва завішчаў, потым цераз сілу прыўзняўся і тыцнуўся гарачым сухім носам Тодару ў шчаку.

— Ну што, што ты мне хочаш сказаць? — пытаўся Тодар, лашчачы сабаку.

А Бой усё хваляваўся, зазіраў гаспадару ў вочы, быццам сапраўды хацеў расказаць яму аб нечым важным і таемным. Цалюткі вечар Бой не адыходзіў ад гаспадара. Ён то жаласліва павіскваў, то клаў на калені лапу і разумнымі шэрымі вачыма глядзеў на Тодара. І толькі калі ўжо добра сцямнела, гаспадар завёў Боя ў будку і паклаў яму ладны кавалак хлеба.

А назаўтра Бой знік. Калі Тодар, выйшаўшы раніцай з хаты, зазірнуў у будку, там ляжаў некрануты хлеб.

Усю раніцу гаспадар шукаў сабаку, аблазіў усе закуткі, клікаў, свістаў, але Боя нідзе не было — як скрозь зямлю праваліўся.

Толькі праз тыдзень вясковыя хлапчукі, гуляючы ў хованкі, знайшлі яго ў глінішчы, недалёка ад таго самага месца, дзе Тодар хацеў яго застрэліць. Ён ляжаў пад арэхавым кустом з заплюшчанымі вачыма, паклаўшы галаву на адубелыя пярэднія лапы.



***Ста́тны*** — стройны, рослы.
***Чэ́знуць*** — траціць здароўе.
***Ды́баць*** — тут: ісці няскладна, нястройна.
***Ачу́ньваць*** — папраўляцца пасля хваробы.

**1** Знайдзіце апісанне выгляду сабакі пасля таго, як ён занядужаў.

**2** Чаму жонка і асобныя суседзі раілі застрэліць Боя?

**3** Прачытайце, як перажываў гаспадар тое, што ён на адзін момант зняверыўся і паддаўся на чужыя ўгаворы. Звярніце ўвагу на словы, якія ён казаў сабаку, адводзячы яго дадому; як праседзеў вінавата каля яго ўвесь вечар, не знаходзячы сабе спакою.

**4** Прачытайце ўрывак, да якога б падышла назва «Развітанне сабакі з гаспадаром».

**5** Чаму апавяданне называецца «Сэрца чалавека»?

## РАСТЛУМАЧ, ЧАМУ ЗАГАДКІ МАЮЦЬ ГЭТКІЯ АДГАДКІ

*Анатоль Клышка*



Твой сябар блізкі:
сядзіць — высокі,
а ўстане — нізкі.

Штодня варкатня.

Што гэта за родная маці
не ведае свайго дзіцяці?





Ці веры дасце:
жыве ў рацэ,
лежачы расце.



У якой малечы
калені вышэйшыя за плечы?

## ДОБРАЕ СЭРЦА

*Георгій Марчук*

Здарылася бяда. Маленькае варанятка ўпершыню ўскара́скалася на край гнязда, але нечакана наляцеў парывісты вецер, і птушаня не ўтрымалася, звалілася ўніз. Па́даючы, пабіла лапку і параніла крыльца. Перапалохаўшыся, забылася нават паклікаць на дапамогу сваю маму-варону, якая шукала

корм побач, у двары дзевяціпавярховага дома. Кульгаючы на правую лапку, варанятка схавалася ў траве. І тут заўважыла, што з дзіцячага садка да яго кіруецца чорна-белы кот. Варанятка скеміла: трэба ўцякаць ад гэтага ліха. Дрыжучы ад страху, зашылася ў густы куст і вырашыла чакаць сваю маму.

Два хлапчукі, якія кідаліся камячкамі зямлі, заўважылі варанятка. Адшукалі дубчыкі і пачалі праганяць птушаня з куста. Але яно трымалася мужна і не пакінула свайго часовага сховішча. Хлапчукам надакучыла палохаць варанятка, і яны ўцяклі. Тут яго і знайшла маці-варона. Пакарміла, строга загадала не вылазіць з куста, а сама села на дрэва і ўсю ноч не заплюшчыла вачэй, пільнуючы варанятка.

Раніцай нейкі дзядзька вывеў на прагулку свайго сабаку. Сабака гойсаў па пляцоўцы без павадка і на ўсіх брахаў. Варанятка стаілася, але гаспадар сабакі заўважыў яго, пачаў цкаваць: «Хапай яго, Пірат! Кусай!» Да сына адразу ж прыляцела маці-варона. Яна бараніла яго з апошніх сіл. У доме насупраць каля акна сядзела бабулька, да слёз перажывала за варанятка і яго маці-варону. Але дапамагчы не магла: яна была вельмі старэнькая і ўжо не выходзіла на вуліцу. Бабулька слабенькай рукой стукала па шыбе алоўкам, спадзеючыся хоць так суняць раз'юшанага сабаку. Тады варанятка вырашыла само дапамагчы маці. Выбралася з куста, узмахнула крыльцамі і — дзіва! — узляцела на



самую нізкую галінку бярозы. Імгненна побач з ім апынулася і стомленая маці-варона. Злы сабака ўжо не мог да іх дацягнуцца, а толькі хрыпла, з пенай на іклах, брахаў унізе. Варанятка моцна трымалася лапкамі за галінку.

— Патрывай яшчэ, сынок, — прасіла маці. — Набярэшся сілы, і мы ўзляцім вышэй...

Другую ноч варанятка ўжо спала побач з мамай, тулячыся да яе цёплага крыла. Раніцай з дома насупраць выбег хлопчык. Убачыў іх, пачаў цэліць з рагаткі. Маці-варона гучна каркала, нібы сарамаціла хлопчыка. Але ён не зважаў на яе крык, выбіраў для рагаткі буйнейшыя каменьчыкі. Адзін каменьчык балюча даў па лапцы, і варанятка рызыкнула ўзляцець. Ура-а! Атрымалася! Вецер падхапіў яго, і яны разам з мамай узляцелі высока-высока, на самы дах дома. Варанятка села на краёчак і глянула ўніз. Адсюль, зверху, дзядзькі і цёткі, сабака, хлопчык з рагаткай здаваліся ўжо не такімі вялікімі і страшнымі.

Да іх падляцеў дзядуля — стары аднавокі крумкач. Ён прынёс у дзюбе камень і сказаў варанятку:

— Вазьмі камень і кінь на сваіх крыўдзіцеляў. Яны некалі мне, малому, вока выбілі. І цябе ледзьве не загубілі.

Варанятка ўзяло камень у дзюбу і наважылася кінуць. Потым паглядзела на маці. Тая маўчала. Тады варанятка адклала камень убок і сказала:

— Не, не магу кінуць. Мне іх шкада. Яны не ўмеюць лятаць, як мы.

— Яны злосныя і жорсткія, — даводзіў дзядуля-крумкач.

— Можа, зробяцца дабрэйшымі, — адказала варанятка. — Няхай жывуць!

Маці абняла варанятка крылом і ласкава сказала:

— Ты будзеш шчаслівым, сынок, таму што ў цябе добрае сэрца.



***Ускара́скацца*** — ускарабкацца.
***Суня́ць*** — стрымаць, спыніць.
***Ске́міць*** — зразумець, разабрацца.

1 З якімі цяжкасцямі сустрэлася варанятка ў двары?
2 Што дапамагло яму ўратавацца?
3 Прачытайце адказ варанятmember на крумкачовы словы, што людзі «злосныя і жорсткія».
4 Як нам жыць у згодзе з птушкамі і дапамагаць ім?

# РЫБАКІ

*Кастусь Цвірка*



На зары не спі, дарога!
Да задымленай ракі
Крочаць плоймай басаногай
Рыбакі.

Трапятаць у вёдрах будуць
Плоткі, карпы, шчупакі...
Разматалі дружна вуды
Рыбакі.

Бераг.
Сонца — вышай, вышай
Ды... не тонуць паплаўкі.
І сядзяць у чуйнай цішы
Рыбакі.



Вечарком нясуць дадому
Вуды доўгія і стому
Ды пустыя кацялкі
Рыбакі.

А назаўтра — ледзьве золак —
Да засмужанай ракі
Зноў бягуць гурмой вясёлай
Рыбакі.

---



***Пло́йма*** — мноства.
***Зо́лак*** — час перад усходам сонца, досвітак.
***Гурма́*** — група.

1 Знайдзіце радкі, якія перадаюць мары хлапчукоў пра багаты ўлоў.

2 Чым канчаецца ў хлапчукоў рыбная лоўля?

3 Што было для дзяцей важнейшым: улоў ці добры адпачынак ля ракі? Дакажыце гэта словамі з тэксту.

4 Якое пачуццё выклікае ў вас гэты верш?

## ЗАКЛЮЧНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

- З якіх твораў апошняга раздзела гэтыя радкі?

У векавых бярозах чорных,
як сподкі, круглыя грузды.
З іх, быццам бы ў сталоўцы шчодрай,
п'юць дождж сойкі і дразды.

У ракавіне шчыльнай
вандроўнікі сядзяць.
І нават дождж краплісты
не зможа іх дастаць.

Трапятаць у вёдрах будуць
Плоткі, карпы, шчупакі...

- Успомніце назвы раздзелаў, прысвечаных порам года. Што падкрэсліваецца ў кожнай з іх?

- Якія колеры пераважаюць увосень? Узімку? Увесну? Улетку?

- Якую пару года любіце вы? Чаму? Апішыце яе. Дзе і як вы будзеце адпачываць улетку?

# З М Е С Т

## РАДЗІМА МАЯ ДАРАГАЯ



## НА НІЦЯХ БЕЛАЙ ПАВУЦІНЫ ПРЫВОЗЯЦЬ ВОСЕНЬ ПАВУЧКІ...



## З РОГА ЎСЯГО МНОГА

**ОЙ, ЗІМА, ЗІМА, ЗІМА!**
**ВЕСЯЛЕЙ ЦЯБЕ НЯМА!**



**ВЯСНА, ВЯСНА! УСЕ ЁЙ РАДЫ...**

## ІШЛА ВАЙНА НАРОДНАЯ...



## НАС ЛЕТА Ў НОВЫЯ ДАЛІ ВЯДЗЕ...

Вучэбнае выданне

**Клышка** Анатоль

**ЛІТАРАТУРНАЕ ЧЫТАННЕ**

Падручнік для 4 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з рускай мовай навучання

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Б. Сопат*
Мастак *І. В. Лазерка*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Камп'ютарная вёрстка *А. М. Кісялёва*
Карэктар *К. В. Шобік*

Падпісана ў друк 21.11.2013. Фармат 70×90 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 9,36. Ул.-выд. арк. 4,78.
Тыраж 112 500 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. ЛВ № 02330/0494469
ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа». ЛП № 02330/0150496
ад 11.03.2009. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск

(Назва і нумар установы агульнай сярэдняй адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |